# РОДНАЯ МОВА

МЕСЯЧНІК ПАСЬВЯЧОНЫ ПЫТАНЬНЕМ
БЕЛАРУСКАЕ (КРЫВІЦКАЕ) МОВЫ.

Выдаецца з памогаю Міністэрства Вераў і Асьветы

Падпіска на год — 6 зал., ½ г. — 3 зал., ¼ г. — 1.50 зал.

Адрэс Рэдакцы ј Адміністрацы: Вільня, Квашэльная 23, 1.

№ 6 Студзень—Сакавік 1931. Год II.

## Зьмест:

**Артыкулы:**



**Крытыкі ј рэфэраты:**







# Беларуская вымова царкоўна-славянскага пісьма.

У IX. ст. старабаўгарская мова сталася ў часьці Славянаў багаслужэбнаю моваю. Як мова ўжываная ў Царкве, яна дастала назоў царкоўна-славянскае мовы. Дзеля таго што царкоўна-славянская мова была блізкой да йіншых моваў славянскіх, дык розныя славянскія народы ўжэ із самога пачатку чыталі царкоўна - славянскія тэксты, пяялі й гаманілі пацаркоўна-славянску, вымаўляючы да некатораe меры пасвойму. А з часам і зусім перайшлі на сваю вымову. Беларусы вымаўлялі царкоўна-славянскае пісьмо пабеларуску. Аб гэтым сьведчыць мноства царкоўна - славянскіх кнігаў, напісаных і надрукаваных у Беларусі. Калі Беларусь лучыла пад Маскоўшчыну, дык Расейцы ў канцы XVIII. і ў XIX. ст. накінулі нам сваю вымову царкоўна-славянскага пісьма. Тое самое сталася з украйінскаю вымовaю царкоўна-славянскага пісьма на Украйіне, належачай да сусьветнае вайны да Расейі, але ў Галіччыне й цяпер ё свая — украйінская — вымова царкоўна-славянскае мовы. Сэрбы вымаўляюць царкоўна-славянскае пісьмо пасэрбску, Расейцы парасейску, на‘т Баўгары не вымаўляюць цяперака царкоўна-славянскае мовы, г. зн. свае старабаўгарскае, так, як вымаўлялі ў IX. ст., але паводле свае цяперашняе вымовы.

Дыкжэ дзеля адноснае блізіні царкоўна - славянскае мовы да йіншых моваў славянскіх трудна было-б правесьці ў царкоўным жыцьцю яе баўгарскую вымову з IX. стагодзьдзя. Нельга сабе прадставіць вымаўляньне цяпер юсаў (гукаў падобных да польскіх *ą*, *ę*), яшчэ цяжэй было-б зьерамі ъ, ь, калісь таксама вымаўлянымі. А як вымавілі-б *р*, *л* складовыя тыя Славяне, што гэтых гукаў цяперака ня знаюць? Прыведзеных прыкладаў даволі, каб паказаць, што царкоўна-славянскую мову вымаўляць пацаркоўна - славянску ці—начай кажучы—пастара-баўгарску цяперака немагчыма. Трэба дадаць, што нямашака патрэбы гэтага ды што гэтага ніхто рабіць і ня думае.

А калі так, дык і мы, Беларусы, маем вымаўляць царкоўна-славянскую мову пабеларуску, вымаўляць так, як вымаўлялі даўней за красаваньне беларускае культуры. Цяперашняе вымаўляньне царкоўна-славянскае мовы ў беларускай праваслаўнай Царкве парасейску нічым не апраўдуецца і ё аднэй з астачаў нашае культурнае й душэўнае няволі.

Гэтта, маючы наўвеце практычнае заданьне, пакажу, як царкоўна-славянская мова вымаўляецца пабеларуску. Вымова гэтая блізу што вылучна будзе датычыць фонэтыкі (гукаў) і толькі ў вадным прыпадку зачэпе хвормы. Слоўнік, сынтакс дый наагул хвормы астануцца бязь зьмены.

Ніжэй у дужках падам прыклады паводле правапісу царкоўна-славянскага, а вонках дужкаў тыя-ж прыклады паводле йіх вымовы беларускае. З тае прычыны, што ў друкарні няма царкоўна-славянскіх літараў, прыйдзецца прыводжаныя ўсі прыклады даць цяперашняй кірыліцай. З тае-ж прычыны напару (калі ў слове ё юсы) зусім нельга будзе даць прыкладаў паводле царкоўна-славянскага правапісу. Прыклады пераважна бяру зь цяперашняга служэбніка. Хворма таковых прыкладаў нярэдка ладне розьніцца ад хвормаў старабаўгарскіх, аднак, калі хворма ў служэбніку згаджаецца зь цяперашняй вымовай беларускай, я прыводжу слова не папраўляючы (прыкл. у служэбніку *человѣкъ*, а ў старабаўг. мове *чловѣкъ*).

1. Вялікі юс вымаўляем як *у* (*ю*)—муж, пуць, вѣрую.

2. Малы юс вымаўляем як *а* (*'а*, *я*) — пяць.

3. Націсьненае *ъ* вымаўляем як *о*—сон (сънъ).

4. Націсьненае *ь* вымаўляецца як *е*—дзень (дьнь).

5. *ъ*, *ь* (звычайна ненацісьненыя) па *р*, *л*, *в* нярэдка вымаўляем як *ы*, *і*. Прыкл.: кроў (кръвь), але крыві (кръви), мудрэц (—ьць), але мудрыца (—ьца), мярцьвец (мрьтвьць), але мярцьвіца (мрьтвьца).

6. *ъ*, *ь* у канчатках прыкметаў перад *и*, *й* вымаўляюцца як *ы*, *і*—добры (добръи, добрый).

7. *ъ* у прыстаўках, складзеных з *іду*, *іму*, вымаўляецца як *ы*—падыйду, абыйму, абыймеш і г. д.

8. У прыймені й прыстаўцы *въ* чэзьне *ъ*, а *в* пераходзе ў *ў* па самагуку пярэдняга слова і ў *у* па сугуку пярэдняга слова, на пачатку казаньня (сказу) ды па паўзе. Напр.: Гасподзь уцарыся, у ляпату аблячэся (Господь въцари-..), Стаяшчыйі ў храмя Гасподні, у дварэх дому Бога нашага (..въ храмѣ господни, въ дворѣхъ дому бога нашего), і ў векі вякоў (и въ вѣки вѣковъ), у мноства шчадрот

Твайіх (въ мъножьствѣ щедротъ твоихъ). У йімя Айца і Сына і Сьвятага Духа (Въ..).

**9**. У прыймені й прыстаўцы *възъ* чэзьне заўсёды *в*, а з *в* бывае тое самое, што з *в* ў *въ* (гл. **8**), значыцца гэтае прыймя-прыстаўка будзе гучэць — *уз, ўз*. Прыклады: узваці (въззъвати), Цябе славу ўссылаям (Тебѣ славу въссылаемъ), уздух узвысі (въздухъ възвыси), Узьвядох вочы майі ў горы (Възведохъ очи мои въ горы), узьнясеньня (вънесеніе), уздвіжаньня (въздвиженіе), ускрэс, ускрысеньня, уздам Госпадзеві (въздамь Господеви).

**10**. *ь* у суфіксе *-ьств-о* не вымаўляецца — мноства (мъножьство), Боства (божьство).

**11**. Ненацісьненае *о* вымаўляецца як *а* — Госпадзі памілуй (господи помилуй) і ладне прыкладаў, прыведзеных вышэй.

**12**. Ненацісьненае *ъ*, калі вымаўляецца, дык таксама як *а*. Напр: наставі нас ка прыстанішчу (настави насъ къ пристанищу).

**13**. Ненацісьненае *е*, *ѣ* ды *ь* (калі апошні вымаўляецца) па *р, ц, ч, ш, ж, щ* вымаўляюцца як *а*: Божа (боже), вечар (вечеръ), рака (рѣка).

**14**. Ненацісьненыя *е*, *ѣ*, ды *ь* (калі апошні вымаўляецца) вымаўляюцца па сугуках мяккіх у беларускай мове як *я* (*'а*): Яка Ты ясі Бог наш (Яко ты еси Богъ нашь), Яка падабаяць Цябе ўсякая слава (Яко подобаетъ тебѣ вьсякая слава), ныня й прысна (нынѣ и присно), яшчэ (еще), чалавекалюбяц (человѣколюбьць).

**15**. *ѣ* націсьненае вымаўляецца як *е* бел (бѣлъ)*).

**16**. *ы* па *к* вымаўляецца як *і* — кінуці.

**17**. Ненацісьненае *у* (прыймя *у* ці *у* пачынаючае слова альбо склад) па самагуку вымаўляецца як *ў*. Прыкл.: спасаці ўся ўпаваюшчыя.

**18**. *и* пачынаючае слова па самагуку пярэдняга слова заўсёды вымаўляецца як *й*; злуч. *и* вымаўляецца як *й*, калі луча аднолькавыя склады казаньня—ныня й прысна (нынѣ и присно).

**19**. *і* (з *ь*) у групах *-іе*, *-ія*, *-ію* не вымаўляецца, пры гэтым бывае здваеньне стаячага перад *і* сугуку. Прыклады: маленьня (моленіе), упаваньня (оупованіе), ізбаўленьня (избавленіе), памышленьням (помышленіемь), жыцьцё житіе), брацьця (братія), благадацьцю. Калі перад стаячым перад *-іе*, *-ія*, *-ію* сугукам ё яшчэ сугук, дык здваеньня ня

*) Калі націсьненае *ѣ* вымавіць як двугук (дыфтонг), дык гэта ня будзе пярэчыць беларускай вымове.

бывае — хрысьцянін, царсьцьвя (царствіе). Ня здвоююцца також *р*, *м*, *п*, *б*, *в*—прававерʻя (правовѣріе). Стаячы перад *і* гук *в* вымаўляецца як *ў*, калі перад *в* няма яшчэ сугуку—праваслаўя (православіе).

**20.** Націск будзе заўсёды як у беларускай мове. Прыкл.: зямлю, гару, із дому, спасяньня; каго, але—нікога, каму, але—нікому.

**21.** Перад пачынаючым слова альбо склад націсьненым *о*, *у* заўсёды будзе прыстаўное *в* — вока, вуха (око, ухо), войча (отьче). Перад *у* ненацісьненым прыстаўное *в* бывае рэдка—вучыцяль (учитель). Перад пачынаючым слова альбо склад вялікім юсам (вымаўляць *у*) заўсёды ё *в*.

**22.** З выняткам злуча *и* ды прыймені-прыстаўкі *із*, перад кожным йіншым *и*, пачынаючым слова альбо склад, заўсёды будзе *й* — йіх, йім (ихъ, имъ), пайіці (поити), йімя, йіскра (искра), йісьціна (истина), Йімяням Господнім благаславі, войча (Именемь господьнимь благослови, отьче).

**23.** Перад *е*, *ѣ*, малым юсам ды *ь*, паколькі гэты вымаўляецца, усі сугукі, здольныя ў белр. мове быці мяккімі, вымаўляюцца мякка, а *д*, *т*—як *дз*, *ц*. Тое самое будзе й тады, калі шчэзлы *ь* пакінуў у беларускай мове па сабе сьлед у пастаці зьмякчэньня папераджаючага яго сугуку. Прыкл.: Міласьць Твая, Госпадзі (Милость твоя, господи), цьма (тьма) і шмат сярод прыведзеных вышэй на йіншыя зьявы.

**24.** *з*, *с* перад сугукамі, вымаўлянымі мякка, таксама вымаўляюцца мякка—сьвет (свѣтъ), сьвяты.

Таксама канцавое *з*, *с* прыймёнаў і прыстаўкаў перад *й* і сугукамі, вымаўлянымі мякка — вымаўляюцца мякка: разьбіці (разбити), узьнесьці (възнести),ізьбіці (избити), ізь сьвятыні, бязь цябе (безъ тебе).

**25.** Як цьвярдое, так і мяккое царкоўна-славянскае *р* скажацца пабеларуску толькі цьвёрда — крэпкі, пастыр, Марыя (крѣпъкый, пастырь, Марія).

**26.** *ц* вымаўляецца цьвёрда—цэлы, ісцаліці (цѣлый, исцѣлити).

**27.** *ш*, *ж*, *ч*, *щ* альбо *шт* вымаўляюцца цьвёрда — чэсьць, чыст, жыцьце, ношч (чьсть, чистъ, житіе, нощь).

**28.** Вусьняныя *б*, *п*, *м* перад *е*, *ѣ*, *і*, *и* і малым юсам вымаўляюцца мякка, але перад невымаўляным *ь* на канцы ці ў сярэдзіне слова вымаўляюцца цьвёрда — дам, седм, восм, скорб (дамь, седмь, осмь, скръбь), галуб. Таксама менаваныя сугукі цьвёрда вымаўляюцца перад *й* або — начай кажучы — калі ня зьліваюцца з наступным самагукам.

**29.** *г* вымаўляецца як лацінскае *h* — глава = hлава.

**30.** Царкоўна-славянскае—*лъ* на канцы дзеясловаў *) вымаўляецца як *-ў*—быў, дзелаў, даў (былъ, дѣлалъ, далъ).

**31.** Калі царкоўна-славянскім *-лъ-*, *-ль-* у сярэдзіне слова адпавядаюць словы беларускія з вымоваю *-оў-*, дык менаваныя *-лъ-*, *-ль-* трэба вымаўляць *-оў-*. Напр.: доўг, воўк, поўн, іспоўнім, маўчаці (длъгъ, влькъ, пльнъ, испльнимъ, мльчати).

**32.** *в* перад невымаўлянымі *ъ*, *ь*, а калі яны не надрукаваны, дык перад сугукам, чытаецца *ў*. Напр.: настаўнік (наставьникъ), праўда (правьда), праваслаўны (православьный), міласьціў (милостивъ).

Калі таковае *в* стайіць на пачатку слова, дык па сугуку папярэдняга слова вымаўляецца як *у*.

**33.** *щ* або *шт* вымаўляецца — *шч* — ношч (нощь, ношть).

**34.** Канцавое *й*, *и* наз. скл. адз. л. прыкметаў не вымаўляецца—добры, белы (добрый, бѣлый, бѣлыи).

**35.** Як толькі слова *отьць* прыймае такую хворму, што *ь* паміж *т* і *ц* не вымаўляецца, дык замест *-тьц-* кажам *-йц-*. Напр.: ацец (отьць наз. скл. адз. л. і родн. мн. л.), але айца, айцу і г. д. (отьца, отьцу), войча (отьче).

**36.** Канчаткі 3-яе асобы дзеясловаў адзіночнага й множнага ліку вымаўляюцца мякка, а дзеля таго што замест мяккога *т* кажам *ць*, будзе — *-ць*. Напр.: відзіць, носіць, бярэць, дасьць (видитъ, носитъ, беретъ, дастъ), відзяць, носяць, бяруць, дадзяць.

Належыла-б такжа пісаць ды друкаваць замест цьвярдых мяккія хвормы ў 3-яй ас. адзіночнага й множнага ліку (замест *тъ - ть*—носить і пад.); ужо ў XI—XIII ст. гэткая хворма, адступаючая ад царкоўна-славянскае, была ў Беларусаў праведзена.

Ня буду прыводзіць драбнейшых асаблівасьцеў беларускае вымовы царкоўна-славянскага пісьма.

Напасьледак дам цэлае „верую“ ў беларускай вымове:

Верую ў ядзінага Бога Айца, усядзяржыцяля, тварца небу й зямлі, відзімым-жа ўсем і нявідзімым. І ў ядзінага Госпада Ісуса Хрыста, Сына Божыя, ядзінароднага, йіжа ад Айца раждзеннага прэждзя ўсех век. Сьвета ат сьвета, Бога йісьцінна ад Бога йісьцінна, раждзенна, нестварэнна, ядзінасушчна Айцу, йімжа ўся быша. Нас радзі чалавек і нашага радзі спасяньня, шшэдшага зь нябёс, і ўплаціўшагася ад Духа Сьвята і Марыйі Дзевы, і ўчалавечшася. Расьпятага-жа за ны пры Панційсьцям Пілаця, і страдаўша, і паграбенна. І ўскрэшшага ў трэці дзень па пісаньням.

---

*) participium на — *лъ*.

І ўшшэдшага на нябёса, і сядзяшча адзясную Айца. І пакі градущчага с славаю, судзіці жывым і мертвым, Ягожа царсьцьвю ня будзяць канца. І ў Духа Сьвятага, Госпада жыватваращчага. йіжа ад Айца ісхадзяшчага, йіжа з Айцэм і Сынам спакланяяма й славіма, глаголаўшага прарокі. У ядзіну сьвятую, саборную й апостальскую цэркаў. Іспаведую ядзіна крашчэньня ў вастаўленьня грахоў. Чаю ўскрысеньня мертвых і жызьні будушчага века. Амінь.

Зь некаторых пунктаў пункты 8, 9) відаць, што каб добра прачытаць пабеларуску, трэба, каб было добра надрукавана пацаркоўна-славянску (а не парасейску). Гэтак *въ вѣки, възнести* лёгка чытаецца пабеларуску *у векі, узьнясьці* або *ў векі, ўзьнясьці* (залежна ад таго, сугук ці самагук стайіць перад *въ*), але немагчыма або прынамся трудна прачытаць пабеларуску напісанае парасейску — *во вѣки, вознести*. Чытаньне *ва веки, вазьнясьці* было-б беларускай вымоваю не царкоўна-славянскага (стара-баўгарскага), але расейскага пісьма.

Ведама, адно тый патрапе вымаўляць царкоўна - славянскую мову пабеларуску, хто знае беларускую мову. Таму, хто яе ня знае, ніякія выясьненьні не памогуць.

Др. Я. Станкевіч.

---

## На што ј як зьбіраці географічныя ј асабовыя назовы беларускія?

(Перадрук забаронены).

Забраныя географічныя ј асабовыя назовы дадуць дарагі матар'ял *дзеля этнографіјі Беларусі*. Згодзяцца яны такжа пры вывучэньню најстаршае пары *беларускае мовы*. Прыкладам назоў места *Лепле* значыць „харошшае"— вышшая ступень таго значэньня, каторае знаходзім у назове „*Краснае*" (местачка ў цяперашнім Маладзечанскім пав. і места ў Смаленшчыне). Назовы ўзбагацяць слоўнік нашае мовы, пакажуць якімі суфіксамі тварыліся словы, як тварыліся словы складаныя і јіншае. Бывае, што зь географічных і асабовых назоваў даведуемся аб новых зьявах у беларускај мове. Прыкл. з таковых географічных назоваў, як *Докшыцы, Хаценчыцы, Алекшыцы*, прозьвішчаў *Мамчыц, Акінчыц* і пад. даведуемся аб распадабненьню шыпячых. З назоваў *Жојдзішкі, Бејніца* і пад. аб узьніку ј паміж *а, о, е* і зубнымі.

У назовах нярэдка мы знајдзем адносіны нашых прэдкаў да свајіх дзяцеј, радні і јіншых, што паможа вывучэньню *псыхолёгіјі нашага народу*.

Географічныя назовы памагаюць пазнаваці даўнејшае

расьсяленьне беларускіх пляменаў, іхняе пашырэньне j перасяленьне. Прыкладам таковыя назовы, як *Крывічы* ў Вялейскім пав., *Крыўск* у Ашмянскім пав., паказуюць, што названыя імі мясцовасьці былі сялібамі беларускага племені Крывічоў, *Палачаны* (станца каля Маладзечна) былі каленяј Полацку. Значыцца, запісаваць географічныя назовы трэба яшчэ дзеля *гістарычнае географіі Беларусі* і старавечнае гісторыі Беларускага Народу.

Паводле такіх назоваў, як *Менск*, розныя *Пагосты* і іншыя, можна студыяваць пашырэньне гандлю ў старыя часы ў нашај Бацькаўшчыне. Такія назовы, як—Рымары, Кавалі, Бандары, Ганчары, паказуюць на пашырэньне рамясла. *Гісторыя культуры* шмат карыстае зь географічных і асабовых назоваў.

*Прыродаведа* таксама карыстаецца зь географічных назоваў. Паводле гэтых назоваў можна даведацца, дзе якія расьліны расьлі або j растуць цяперака. Прыкладам назоў „Дубнік" паказуе, што там рос дуб, „Хмелішча", што рос хмель, дык, значыцца, і цяперака хмель можна расьціць і пад.

Бачым, якое вялікае значэньне мае зьбіраньне географічных і асабовых назоваў беларускіх. Дык трэба прыступіць да яго шчыра, сур'ёзна j уважна.

## Як запісаваць беларускія географічныя j асабовыя назовы?

Најменшај адзінкај дзеля запісу географічных і асабовых назоваў беларускіх будзе местачка, сяло (вёска), грудок (група, кучка) аднаселеў (хутароў), засьценак, двор.

Трэба адразу паказаць палажэньне мясцовасьці, каторај назовы запісуем. Калі запісуем назовы на прасторы местачка, дык даволі паказаць, у якім яно павеце. Запісуючы назовы на меншым прасторы (вёсцы, засьценку, двары), апрача павету трэба паказаць воласьць ды далячыню да бліжшага местачка і бліжшага гасьцінца.

Запісаўшы назоў местачка, сяла ці засьценку і паказаўшы іхняе палажэньне, трэба далеј запісаць: a) прыкмету ад дадзенага назову, прыкл. назоў сяла Чатыркі, прыкм. чатыркаўскі; b) назовы асобных часьцеў вёскі (сяла) ці местачка, калі такія часьці маюць свае асобныя назовы; потым запісаць назовы вуліцаў. У местачку заўсюды будуць вуліцы меці назовы, а ў сёлах адно некаторых.

Далеј трэба запісаць: a) назоў рэчкі, ручая, цурка, ставу, копані, ведама, калі яны маюць свае назовы; b) назовы сенажацеў і балатоў; c) назовы дарогаў; d) палёў, лясоў, узгоркаў, курганоў.

Запісаваць трэба так, як называе мясцовае беларускае насяленьне, а ня так як чужнiком захацелася назваць пасвојму. Вуліцы ў местах і местачках вельмі часта цяпер чужнікі назвалі паjiхняму. Трэба даць уважна свој беларускі назоў і ўспомнець аб чужым, прыблізна паказаўшы час, калі гэны чужы назоў зьявіўся. Называць (у гутарцы j на пісьме) ўсюды трэба толькі пасвојму! Прыклад: у м. Валожыне Зарэцкую вуліцу j вёску Панізьзе магістрат пад націскам бурмістра, асадніка капітана Швэда, перамяніў на вул. „Навагрудзкую"; трэба запісаць гэтак: „Зарэцкая вуліца, вёска, а цяпер часьць места Панізьзя, абое магістрат пад націскам бурмістра, асадніка капітана Швэда, перамяніў у 1929 г. на „Навагрудзкую" вуліцу".

Калі запісаваньніку ці мясцовым людзём ведама, ад чаго якое-колечы поле, сенажаць і jіншае дасталі свој назоў, дык, запісуючы, трэба такое выясьненьне так сама запісаць. Але ня можна самому выдумляць выясьненьнеў. Прыкл.: „Альшанская вуліца, бо вядзе ў м-ка Альшаны", „сенажаць Сябрыха, бо да нядаўна ня была падзелена, сябрана (супольна) ёю карысталіся".

Бывае напару (часамі), што якісь прастор мае два назовы, дык трэба абодва j запісаць.

Бывае яшчэ, што ўсё мясцовае насяленьне ўжывае адну хворму назову, а ў воласьці, у царкоўнај і касьцельнај канцылярыjі ё другая хворма таго-ж назову, але абедзьве хвормы беларускія; трэба запісаць абедзьве хвормы, зазначыўшы дзе якая ўжываецца. Прыкл. адно местачка ў Ашмянскім пав. ўсё мясцовае насяленьне заве *Альшаны*, а ў воласьці, царкве j касьцеле яно запісана *Гольшаны* (Holšany).

Калі дадзенае сяло і пад. ягоныя суседзі называюць jіншым назовам, дык і гэны jіншы назоў трэба так сама запісаць.

Важна яшчэ запісаць назовы жыхараў і жыхаркаў дадзенае мясцовасьці. Прыкл.: жыхар м. Альшаны завецца *Альшанец*, жыхарка — *Альшанка*; Вішнява — *Вішнявяц*, *Вішняўка*.

Калі людзём аднае мясцовасьці (вёскі, засьценку і jіншых) людзі jіншых мясцовасьцеў даюць якія мянушкі, дык гэт'кія мянушкі трэба так сама запісаць.

Калі зь мясцовасьцяј злучаныя лягенды, дык трэба j jіх запісаць.

Хто запісуе географічныя назовы свајго местачка, сяла і jіншых, дык звычајна ён сам будзе ведаць усі назовы на jіхнім прасторы. А запісуючы назовы ў чужој мясцовасьці, трэба jіх даведацца ад мясцовых людзёў. Залежна ад акалічнасьці, можна альбо пастарацца ўчуць мясцовы назоў, ня пытаючыся j ня кажучы, на што гэта трэба,

альбо пытацца, пазнаёміўшы мясцовых людзёў з патрэбаю ј мэтаю запісу.

Запісаўшы ўсі назовы дадзенае мясцовасьці (м-ка, сяла і јінш.), трэба запісаць усі прозьвішчы (фаміліјі) гэтае мясцовасьці.

Трэба запісаць і ўсі мянушкі людзёў тае-ж мясцовасьці. Мянушкі дзеля запісу маюць важнае значэньне, як і прозьвішчы. Запісуючы мянушкі, трэба адзначыць, якія зь јіх дадзеныя цэлај сямјі альбо ј усёј радні а якія адносяцца адно да некаторых сяброў сямјі. Калі ведама прычына, зь якој паўстала мянушка, дык трэба яе так сама паказаць.

Трэба запісаць не адно бацькаву хворму прозьвішча ј мянушкі, але таксама матчыну, дзяцюцкую ј дзявоцкую. Прыклад: „Вајніловіч, мянушка Рыба́к, бо бывае лове рыбу; жонка Вајніловічыха (у јіншых мясцох могуць сказаць — Вајніловічаха ці як начај, дык гэтак трэба ј запісаць), Рыбач*ы*ха;*) сын Вајніловічык (у јіншых мясцох могуць сказаць В а ј н і л о ў ч ы к, В а ј н і л о в і ч а н а к, В а ј н і л о в і д ч а н ы к—як кажуць, так трэба ј запісаць), Рыбачонак; дачка Вајніловічышка (могуць сказаць дзе ј Вајніловічанка, Вајніловічынка), Рыбача́нка.

Як бачым, што калі напару якая хворма прозьвішча мае два канчаткі, дык трэба яго запісаць з аводвымі канчаткамі. Сказанае адносіцца так сама да мянушкаў.

Трэба такжа паказаць лічбу (колькасьць) гаспадароў з кожным прозьвішчам ды зацеміць, колькі з адным прозьвішчам сваякі, а колькі чужыя.

Запісаўшы прозьвішчы ј мянушкі, трэба ўзяцца за запісаваньне хрышчоных јімёнаў альбо наагул јімёнаў (у мусульманаў і жыдоў). Јімёны ляпеј запісаваць у вальфабэтным парадку. Трэба запісаць усі хвормы кожнага јімені, з каторым яго скажуць у запісаванај мясцовасьці. Прыкладам: Вінцэсь, Вінцук, Вінцуль, Ганна, Ганька, Гануля, Ганулька.

Добра было-б пры кожнај хворме јімені падаць век называнага тым ці јіншым јіменям.

Јімёны аднаго караня трэба пісаць у вадным месцу. Прыкладам: Іва́н, Ян, Іва́нька, Іва́нка, *Я*нка, Ян*у*к, Ян*у*ль.

Дзеля этнографіјі добра такжа запісаць жарты-насьміханьні, рымаваныя да јмёнаў. Прыклады:

а) Андрэј, ня дурэј,
Ня дзяры капоты:
Ні ты праў, ні ты ткаў—
Ні твае работы.

---

*) дзе не стае літараў із націскамі, там націск паказуем курсыўнај літарај.

b) Пранціш, чаго ты трымціш?
— Я трымчу—на вясельля хачу.

c) Зося — сьвіньні ў гарося.

Збор гэт'кіх насьміханьнеў патрэбны дзеля вывучэньня паўстаньня ј развою народнага вершаваньня.

Прозьвішчы ј імёны асаднікаў запісаваць ня трэба, але прозьвішчы ј імёны жыдоўскія трэба запісаць, бо ў шмат якіх зь іх адбіўся ўплыў беларускае мовы. Ведама, што трэба запісаваць прозьвішчы ј імёны мусульманскія, бо мусульмане—няправільна званыя ў нас „татарамі"—таксама Беларусы.

Калі ў якое сяло, местачка і іншае перасяліўся чалавек зь іншае беларускае мясцовасьці, дык трэба яго прозьвішча запісаць і паказаць, што ён не мясцовы.

Трэба таксама запісаць у дадзенај мясцовасьці назовы кароваў (напрыкл.: Рагуля, Краса́, Маліна), валоў, конеў і сабакаў (напрыкл.: Жучок, Ра́бчык і інш.) Калі запісавальнік ведае, чаму тая ці іншая карова, вол, конь, сабака так званы, дык няхај так сама напіша.

Як географічныя назовы, так і прозьвішчы ды імёны трэба запісаваць так, як іх вымаўляе мясцовае насяленьне, не зважаючы на граматыку ј правапіс.

Запісуючы, заўсёды трэба паставіць націск Напрыкл.: Ка*я*цяняты, Мацулѐвіч, Гану́ля.

Усі запісаваныя назовы пішам у назоўным склоне (адказуе на пытаньне хто? што?), але побач із назоўным склонам трэба паставіць і хворму роднага склону (адказуе на пытаньне каго, кага? чаго, чага?). Напрыкл.: Ставок, р. скл. Стаўка́, Вішнява,-а, Ва̀пнішча,-а, Пятру́сь,-*я*.

Напасьледак даём прыклад*), *як* трэба запісаваць географічныя ј асабовыя назовы.

**Сяло (вёска) Вурнян*я*ты,** родны склон *Вурнянятаў*, прыкмета *вурняняцкі*, Ашмянскага пав., Краўское вол., 7 вёрстаў да м-ка Баруны і 8 вёр. да м-ка Крэва, 1 вярста да гасьцінца з Ашмяны ў Валожына. Ля самае вёскі ё засьценак таго-ж імені. У воласьці гэтая вёска запісана як Урленяты.

*Воды*: рэчка Ласт*а*я,-іі, рэдка яе так называюць, магчыма, што назоў даведаліся з кніг, Ставок, р. скл. Стаўка́ — месца бязыменнага ручая, дзе калісь быў млын і стаў.

*Сенажаці*: нізкая, тарпавая і крыху балоцістая часьць выгана ля рэчкі завецца Кула̀жына,-ы; Сябр*ы*ха,-і, да нядаўна непадзеленая, сябраная часьць сенажаці, Ду-

---

*) бярэм із прысланых ужэ нам запісаў.

бнік,-а́, калісь быў дубовы лес; Высокі Бѐра́г, бо цягнецца ўздоўж высокага берагу ракі; Клін,-а́, сенажаць ля ручая, назоў мае ад таго, што канчаецца клінам; парослая вольхај часьць Кліна завецца Альшэўнік; Ројстра,-а, невялічкая макраватая сенажатка паміж палёў Сенажаці, што проці сялібы, завуцца асе́ліцамі, адна—асѐліца,-ы (прадаўжэньне гароду). Абгароджаныя сенажаці звычајна завуць у нас за́гараднямі, адна—за́гарадня,-і.

*Дарогі*: Жыдоўская,-ај, нягодная дарога, штовядзе із засьценку ў в. Равы, насьмешліва празываную Сібірок; Крыжавая,-ој, названая гэтак дзеля таго, што ля яе пачатку ад выгана дарогі крыжуюцца, ці мо', што ля пачатку стајіць крыж.

*Палі*: Дворныя,-х, належыла калісь да двара; Гліньнішча,-а, капалі ранеј гліну; Шырокія, бо шырокія шнюры; Пад сасоньнікам, Каля папярэчнај дарожкі, Ля каменя, Пад рабінкај, Каля лужы. Апошнія пяць ё запраўды азначэньнямі і ня могуць лічыцца назовамі ў цесным значэньню.

*Лес*: Дзірваны, калісь гэта было неўраблянае, парослае дзікој травој поле, а цяпер ладны лясок; Сасоньнік, сасновы лясочак.

*Прозьвішчы*: 1 гаспадар Аляшке́віч, 3 Вајніловічы (сваякі), 2 Гірштыновічы (браты, *г* вымаўляецца як лац. *g*), 1 Жаўток, родн. скл. Жаўтка̀, 8 Станке́вічаў, каторыя складаюць тры групы сваякоў, 2 Чарняўскія.

Бацькі: Аляшке́віч, Вајніловіч, Гірштыновіч, Станкѐвіч, Чарн*я*ўскі, Жаўток.

Маці (жанкі): Аляшке́вічыха, Вајніловічыха, Гірштыновічыха, Станке́вічыха, Чарн*я*ўшчыха, Жаўц*і*ха ј Жоўціха.

Сынове (хлапцы альбо малцы, дзяцюкі): Аляшке́вічык, Вајніловічык, Гірштыновічык, Станке́вічык, Чарн*я*ўшчык, Жаўцюк.

Дачкі (дзяўчаты): Аляшкѐвічышка ј Аляшке́вічынка, Вајніловічышка ј Вајніловічынка, Гірштыновічышка ј Гірштыновічынка, Станке́вічышка ј Станке́вічынка, Чарн*я*ўшчышка ј Чарн*я*ўшчынка.

Апрача таго, Арлоўскі, Ма́цавіч, Сабале́ўскі ј Чатырка перасяліліся па сусьветнај вајне зь јіншых суседніх вёскаў.

*Мянушкі*. Станке́вічаў шмат, дык јіх у свајім сяле Станке́вічамі блізу што не завуць, але дзеля адрозьненьня завуць альбо па јімені альбо мянушкамі. Станке́віча, што сядзіць за выганам, завуць Зав*ы*ганскі, јіншага Аляксе́јчык, бо бацька быў Аляксеј, јіншых Рыбачкі (тры сямјі), бо ловяць рыбу, яшчэ дзьве сямјі Карусёнкі ад бацькі Каруся, аднаго Чарняўскага завуць Язэпчыкам ад бацькі Язэпа.

Мянушкі ня гэтак моцна трываюць у сямјі, як прозьвішчы, і часта бывае, што дзеці ня маюць мянушкі, като-

рую меў бацька па сваjім бацьку (па дзяціным дзеду). Дзеля таго не ад усіх прыведзеных мянушкаў можна запісаць jіхнія хвормы матчыны (жончыны), дзяцюцкія j дзявоцкія.

Бацькі: Завыганскі, Аляксеjчык, Рыбачок, Карусёнак, Язэпчык.

Маткі (жанкі): Завыганшчыха, Рыбачыха, Карусёніха j Карусёнчыха, Язэпчыха.

Сынове: Завыганшчык, *Юлясь* і jінш. Рыбачкоў, Карусёнчык, Язэпчык.

Дачкі: Завыганшчышка j Завыганшчынка, *Марыля* і jінш. Рыбачкова, Карусёнчышка, Язэпчышка.

*Jімёны муцкія*: Адась,-я (хлапец), Адам,-а (малады j сталы), Вінцэсь,-я (сталы j стары), Вінцук,-а (малады, сталы j стары), Вінцучок (малы), Віктось,-я (сталы), Лявон,-а (сталы j стары), Пятрусь (хлапец), Пятрук,-а (хлапец і мужчына), Сымон,-а (стары), Юзук (малады j сталы); умерлыя старыя: Антось,-я, Вікторы, Габрук (Gabruk), Францiш, Юстын,-а, Ясюк.

*Jімёны жаноцкія*: Алена, Аленка, Алімка, Аміля, Амілька, Антоля, Ганька, Зося, Мальвіна, Міхаліна Марыля, Наста, Паўліна; умерлая—Ягнеша. Усімі менаванымі jімёнамі жаноцкімі завуць маладых, сталых і старых—бяз розьніцы.

*Насьміханьні, рымаваныя да jмёнаў*:

1) Адам, я цябе прадам,
Скуру злуплю—другога куплю.

2) Юза—пуза, галапуза
Драў драніцы,
Лавіў мышы па паліцы,
Мышы ў мох—Юза здох.

*Назовы кароваў*: Бяла, Краса, Маліна, Падласка, Раба, Рагуля, Рыжа, Таўрэлька.

*Сабакі*: Жучок, Лыска, Рабчык.

---

Гэтак трэба запісаваць географічныя j асабовыя назовы, калі хто запісуе на малоj мясцовасьці (местачка, сяло, засьценак і пад.). Пры запісах назоваў на вялікшым прасторы, прыкладам у цэлым павеце, можна абмежыцца запісаваньням адно местачкаў, сёлаў (вёскаў), засьценкаў і двароў. Шмат ляпеj, калі хто выбірае малую мясцовасьць і запісуе на еjным прасторы ўсі чыста назовы.

Запісаўшы, перашлеце ўсё ў рэдакцу „Родная Мова“ (адрэс: Др. Я. Станкевіч, Вільня, Квашэльная вул. № 23, кв. 1).

Разам із запісанымі назовамі перашлеце запоўненую анкету (апытальнік).

**Брачыслаў Скарыніч.**

## Слоўнічак.

**I. баконка**,-і. Насовіч, Слоўнік, бал. 13 перакладае яго словамі „оконце со стекломъ?“, але прыводзе прыклад — Адчыні баконку, няхај зыјдзе дым, зьякога відаць, што баконкаю завецца такая балонка ў вакне, каторая адчыняецца. Ант. Палявој, О яз. нас. Новозыб. у. прыводзе быконка ў значэньню „ваконьніца“ („Род. Мова“ № 1—2, 38), але, відавочна, аўтар крышку абмыліўся ў значэньню.

Баконка, мусіць, паходзе ад слова „бачыць“: даўнеј у вокнах сялянскіх хатаў замест шкла былі пузыры і тольki напару была адна ашклёная балонка, пераз каторую можна было *бачыць* (з—об-ачыці, ад в-ока) і каторая адчынялася. Пол. lufcik, рас. форточка.

**душаемца**,-ы, Аль-Кітаб — ангел сьмерці, званы там-жа паарабску азраіл.

**крыш**,-у. 1) „Быстрый переломъ болѣзни, кризисъ. Крыш яму прыјшоў. 2) Сокрушеніе костей, смерть. Бервяно зваліласяізь сьцяны, як ён тут стаяў, чуць яму крышу ня было; каб крышачку бліжэј і крыш быў-бы яму Сл. Нас. 256.

Значэньне першае гэтага слова пацьвярджаецца такжа прыведзеным Насовічам яго значэньням другім, г. зн., што крыш трэба ўжываць у значэньню „крызыс“.

У польскім часапісе „Język Polski“, маючым, як і „Родная Мова“ ў ладнај меры наўвеце практычныя заданьні, у № за студзень-люты 1931 г. М. Рудніцкі на бал. 28 прапануе замест чужога слова „вітаміны“ ўжываць у польскај мове створонае јім польскае żywaźń. Дык як-жа ляпеј замест чужога, „інтэрнацыянальнага“ слова ўжываць сваё тады, калі яно ё гатовае ј народнае, як нашае крыш.

Значэньне слова „крыш“—крызыс стајіць у беспасярэдняј сувязі із значэньням дзеяслова **крышыць**, бо не адно крышым буракі і іншае, але такжа можа хвароба крышыць чалавека і пад. Насовіч там-жа прыводзе гэт‘кія прыклады: Нягодна мне, ламае мяне і крышыць. Каб цябе перакрышыла!

**летась**, прыслоўе—w przeszłym roku, въ прошломъ году. Пабеларуску ніколі ня кажацца „мінулага году“, „у мінулым годзе“, у „леташнім годзе“, але „летась“. Прыкмета **леташні,-яга**—zeszłoroczny, прошлогодній; **леташак,-шка** і **леташка**,-і, запіс мој у Ашм. пав.—жывёла, што нарадзілася летась.

**падаўкі,-ога**, запіс мој каля Крэва ў Ашм. п.—нецяжкі, лёгкі спакмень (прадмет, об‘ект) дзеяньня. Прыкл.: падаўкая зямля на арбу, падаўкая каса на кляпаньне (каса, каторая лёгка клепецца), можна быць падаўкім на добрыя

j благія ўплывы і јіншае. Падаўкі з пад-даўкі (два *дд* зьліліся ў вадно) і стаjіць у цеснаj сувязі зь дзеясловам **паддавацца** (у якім любя ходаньню — дужаючыся, б'ючыся і јінш.). Пол. podatny, ulegać; рас уступать, подвергаться (вліянію).

**перадаць,-дам**, мнагар. **перадаваць,**-*аю*, запіс моj у Ашм. пав. Можна перадаць, перадаваць пры куплі, плацячы за куплянае вышэj яго вартасьці; перадаць солі ў гарщчок; перадасі ў працы, калі будзеш працаваць болеj як належыцца. Перадаем таксама ў вымаганьню ад jіншых, у ганеньню јіншых і пад. Пол. przesadzić, przesadzać; рас. пересолить, преувеличивать, дать лишнее.

**праходак,-дку**, запіс моj у Сакол. пав. каля Адэльску— spacer, przechadzka, прогулка.

**праходжавацца,-уюся***), ibid. spacerować, przechadzać się' прогуливаться.

**прыбор,-у**, зап. моj у Ашм. п. — upiększenie, ozdoba, украшеніе.

**прыбрáць,**-*у*, мнагар. **прыбірáць,-áю**, запіс моj у Ашм. п.— upiększyć,-ać, ozdobić, ozdabiać, украсить, украшать.

**раськівон,**-. , запіс моj у Ашм. пав. — marnotrawca, rozrzutnik, мотъ, расточитель.

**раськівонлівы,-ага**, ibid. — rozrzutny, marnotrawny, расточительный.

**раськівонства,-а** — rozrzutność, marnotrawstwo, мотовство, расточительность.

**родзіч,**-а. Першае значэньне гэтага слова было „належачы да роду", зн. „сваяк" у шыршым значэньню. Магчыма, што ў некаторых невялічкіх мясцовасьцех яно ў гэтым значэньню асталося дагэтуль. Але ўжэ ў беларускаj літаратуры XVI ст. менаванае слова мае значэньне шыршае — належачы да аднаго народу. Гэтак, прыкладам, у Літоўскім Статуце 1588 чытаем (разьдзел 3 арт. 12), што даваць урады j зямельную маемасьць Вялікі Князь забавязуецца „толька Літве, Русі, Жмудзі, родзічам старажытным і ўражэнцам Вялікага Княства Літоўскага і іных земль, таму Вялікаму Княству прыналежачых". Пол. rodak, рас. землякъ.

**сабечыць,-у**, сконч. **прысабечыць,-у.** 1) Нажываць на собскасьць. Кожны сабе сабечыць лішнюю капејку, а мы ніколі нічога не прысабечым, калі так расходава будзем жыць. Сл. Нас. 598. Пол. nabywać na własność, рас. пріобрѣтать въ собственность. 2) Мае рукавіцы ўзяў дыj сабечыць, прысабечыў сабе ibid.—przywłaszczać,-yć, присвоивать, присвоить. Адгэтуль —

---

*) У Сакольшчыне кажуць праходжвацца, праходжваюся, але тут пішу паводле хвормы агульна ўжыванае.

**сабечаньне,-я, прысабечаньне,-я** — przywłaszczanie, przywłaszczenie, присвоиваніе, присвоеніе.

**сабечаньнік,-а, сабечаньніца,-ы**—тој, тая, што сабечыць. **Прысабечаньнік,-а, прысабечаньніца,-ы** — przywłaszczyciel,-ka, присвоитель,-ница.

**сяголета**, сёлета, прысл. Ніколі ня можна казаць „у гэтым годзе", „гэтага году", але заўсюды „сяголета", „сёлета", скарочана—*сё.л.* Прыкмета — **сяголетні, сёлетні. Сёлетак,-тка, сёлетка,-і**, зап. мој у Яшм. п. — жывёла, што сёлета нарадзілася.

**собскі,-ага**—własny, собственный. Слова гэтае я чуў у цяперашнім Валож. пав. (Забрэская і Валожынская воласьць), Маладзечанскім, Вялејскім і Дзісенскім; сустракаецца яно так-жа ў казках Раманавых. Нягледзячы на гэта, калі я першы стаў ужываць яго ў літаратурнај мове беларускај, дык у яго знајшлося шмат праціўнікаў—звычајна людзёў мала знаёмых з народнај моваю. У 1923 г. ў Празе прыјшлося мне навет пајсьці ў заклад аб гэтым слове із студэнтам Л. Мэнкам, каторы цьвердзіў, што разглядаемае слова я выдумаў. Як да арбітра зьвярнуліся мы да кс. Др. Бобіча зь Дзісеншчыны, бо я ведаў, што ў гэтым павеце менаванае слова напэўна кажуць. Кс. Др. Бобіч прыслаў нам гэт'кі адказ у лісьце: „Слова „собскі" ў нас у Дзісеншчыне сустракаецца досіць часта і мае значэньне „уласны". Я сам ахвотна карыстаюся гэтым словам у гэтым сэнсе і прабаваў уводзіць яго ў літаратурны язык. Пакрысе прыјмаецца. Навучыўся я яго ад свајіх бацькоў яшчэ тады, як быў малы, значыцца год таму нешта 25; чуў ня раз ад старшых сялян у Друјскај і суседніх воласьцех. Цяпер гэтае слова ў нас ужо выходзе з моды. Маладое пакаленьне ахватнеј карыстаецца расејскім „собственный", але старыя яшчэ ј цяпер гэтае слова маюць у жывој мове. Ня верачы сам сабе, я сядня пытаўся некаторых парахвіян і свајіх слуг. Тыя кажуць тое самае".

З часам гэтае слова здабыло свае правы ў літаратурнај мове беларускај. Паміж јіншым яго ўжывае Б. Тарашкевіч у новај рэдакцы свае граматыкі. Зь гісторыјі ўвядзеньня слова „собскі" ў беларускую мову літаратурную відаць, як цяжка ў нас ходацца за чысьціню роднае мовы.

Яд собскі назоўныя јімёны будуць —

**собскасьць,-і**—własność, собственность.

**собсьнік,-а, собсьніца,-ы**—właściciel, właścicielka, собственникъ, собственница.

Польскаму „własny" (чахізм з vlastnì, польская хворма была-б włosny) адпавядае паводле структуры ў беларускај мове слова „валасны".

**соня**,-і, агульнага роду, запіс мој у Ашм. пав.—śpioch, сонливецъ.

**староньнік,-а, староньніца,-ы**, запіс мој у Ашм. п. — няпрыхільнік,-іца, тыј, тая, што стараніцца ад каго альбо ад чаго.

**сумлеў**,-у, зьмянш. **сумлевак,-ўку**, запіс мој у Віленскім пав.—wątpienie, wątpliwość, сомнѣніе. **Бяссумлеву, бяссумлеўку** ibid. — bez wątpienia, безъ сомнѣнія. З прыведзеных выводзім далеј: **сумлеўны** - wątpliwy, сомнительный, **сумлеўна** - wątpliwie, сомнительно, **сумлеўнасьць**,-і—wątpliwość, сомнительность.

**сумлявацца,-аюся**, запіс мој у Вілен. п.—wątpić, сомнѣваться.

У ўкраінскај мове на месцу *ѣ*, а ў ведамых прыпадках і на месцу *е* ё *і*. Дык там правільна ё „*сумнів*". Але пад уплывам украінскім і некаторыя Беларусы пішуць сумліў, сумліўны і іншыя, што ў беларускај мове ё чыстым скандалам.

**супар,-а**. Із супарам свајім памірыўся Сл. Нас. 623 — rywal, соперникъ. Прыр. цар.-сл. sѹрьгь, чэс. souper. Дык **супарка**,-і —rywalka, соперница; **супарства**,-а— współzawodnictwo, rywalizacja, соперничество; **супараваць,-ую**—współzawodniczyć, rywalizować, соперничать.

**суцэльны**,-ага, запіс мој у Ашм. п.—тыј, што складаецца з аднаго матар'ялу, нязлучаны, нясточаны. Пол. jednolity, рас. единый. Пад уплывам расејскім нярэдка некаторыя Беларусы ўжываюць адзіны ў значэньню суцэльны. Адзіны слова чыста беларускае, але знача яно тое, што адзін зь некаторым падчыркненьням, адпавядаючы пол. jedyny, рас. единственный. Трэба заўсюды казаць суцэльная школа, беларуская мова суцэльная, беларускі народ суцэльны, г. зн. складаецца з аднолькавае этнічна масы, і пад., але адзіны Бог; у Аль-Кітабе мноства разоў сустракаецца адзіноства Божае.

**сьнежнікі,-аў**, запіс мој ад Антона Чатыркі ў в. Арляняты, Краўское вол. Ашм. п. — śniegowce. Перад вајноj „сьнежнікаў" ня было чуваць, бо не прадавалі такога вобую. Па вајне наш народ, пачуўшы польскія śniegowce, зараз назваў іх пасвојму—сьнежнікі.

**уганяцца,-яюся**, запіс мој у Ашм. п. — zalecać się, ухаживать.

**харашун**,-á, запіс мој у Ашм. пав. — piękny mężczyzna, красавец; **харашуха**,-і, там-жа—piękna kobieta, красавица.

**чытар**,-а (націск на-*ар*, а ў родным склоне на—*ра*), запісаў я ў в. Семярнікі, Альшанскае вол., Ашм. п.—czytelnik, читатель. Ужыванае некаторымі ў літаратуры чытач узядзена з украінскае мовы, дзе пры тым - жа штучна створана.

*Порце, хусьце, адзежа, адзецьце, вопратка, уборы, прыборы.*

**Порт**—гэта тканіна зь лянных ніткаў. Множны лік ад порт—**порты** даўнеј ужываўся ў значэньню адзежы ј вопраткі, а мо' ј хусьця разам. Гэтак аб уцеках Вітаўта з Краўскога замку кажацца ў летапісцу: „іно яму аднае жонкі порты ўскладшы да выјці вон із другою жонкаю". Цяпер ад „порты" асталася зьмяншальная хворма „порткі", дастаўшы вужшае значэньне; ужываецца апошняе слова адно ў некаторых мясцовасьцех, бо ў јіншых кажуць нагавіцы, ганавіцы. Але зборнае **порце,-я** (ужываецца ў Лідчыне) мае значэньне пол. bielizna, рас. бѣлье.

**Хуста,-ы** (=пол. chusta, рас. большой платокъ) у мн. л. **хусты,-аў** мае два значэньні, бо 1) абазначае шмат хустаў і 2) адпавядае пол. bielizna, рас. бѣлье. У другім значэньню кажацца паміж јіншым у Ашмянскім п. „Bielizna" значыць і зборнае **хусьце,-я**, кажацца паміж јіншым у Сакольскім пав.

Порце, хусьце, хусты *ўскладаюць.*

Камізэлька, марынарка, верхнія нагавіцы, блюзка ј пад. будзе — **адзежа,-ы**, у Віцебшчыне яшчэ **адзецьце,-я**. Н. Нікіфароўскі. Адзежу, адзецьце *адзяюць.*

Пальто, кажух, бурнос, сьвітка, насоў, хутра будзе **вопратка,-і**, **апраніха,-і**. Вопратку альбо апраніху *апранаюць, апратуюць.*

Харошшая адзежа ј вопратка, у каторую ўбіраюцца јдучы ў госьці, на вясельле, у царкву, касьцёл і јінш. пад. называюцца **ўборы,-аў** — ubiór, strój, наряды. У ўборы ўбіраюць,-цца. **Убіраць,-цца** — stroić,-ć się, наряжать,-ться. **Убіраньне,-я** — strojenie, наряжаніе. **Убраны,-ага** — wystrojony, наряженный.

Харошы пояс, палојка (гальштук), касьнікі, анталяжы, пацеркі і пад.—**прыборы,-аў**—ozdoby, украшенія. Прыборамі *прыбіраюць,-цца.* Прыбор прыборы бываюць розныя, јімі такжа прыбіраюць хаты і шмат чаго јіншага.

*Гаспадар,-ыня,-ычна,-ка,-ства, гаспадыня, спадар,-ыня,-ычна, гаспода,-нік,-іца, падасподнік,-іца, кутнік,-іца.*

Гаспадар з *gostь-pod-агь —слова складанае з двух словаў — госьць, каторае значыла спачатна „чужнік", а потым „купец", і под-, *-ar*—суфікс. Разгляданае слова ё ўваўсіх славянскіх мовах, адно розьніцца суфіксамі ды значэньнямі. Гэтак маем црк.-сл. господ-ь, пол. gospod-arz, чэс. hospod-arz, рас. господ-инъ. Спачатна менаваныя словы ў усіх славянскіх мовах абазначалі ўрадніка, маю-

чага нагляд за гасьцьмі (купцамі), гандлям, а пасьлеј прынялі накшыя значэньні, але заўсёды „пан“, „гаспадар“ і пад.

У старшую пару старабеларускае мовы слова „гаспадар“ прыняло значэньне: 1) гаспадара на сваёј гаспадарцы. 2) валадара (князя, караля, цэсара, цяпер-бы яшчэ значыла прэзыдэнта), 3) „пана“, г. зн. чалавека, да каторага зварочаваліся з пашанаю, ды 4) „Пана“ альбо „Госпада“ ўваднасінах да Бога. Менаваныя значэньні ад слова „гаспадар“ былі зусім прыродныя. Зьвернем увагу, што 1, 3 ј 4 значэньне ад таго-ж караня ё ј у іншых славянскіх мовах. Першае значэньне маем у мове польскај і чэскај, трэјцяе ў мове сэрбскај, баўгарскај (господь) і рас. (господинъ), чацьвертае значэньне (Господь) маем у мове царкоўна-славянскај.

Першае значэньне слова „гаспадар“ ведама ў працягу ўсяе гісторыјі беларускае мовы і захавалася ў поўнај сіле дагэтуль. Гэтаму значэньню слова „гаспадар“ адпавядае назоўнае јімя жан. р. гаспадыня,-і. Гаспадар гаспада́ра, а гаспадыня гаспадыніча на сваёј гаспадарцы (gospodarstwie, хозяйствѣ). Гаспадынічыць,-у, знаходзім паміж јіншым у слоўн. Насовічавым бал. 120.

Другое значэньне (валадар) слова гаспада́р,-а̀, жан. р. гаспада̀рыня,-і было да канца беларускае гаспадарсьцьвенасьці, тысячы прыкладаў на гэтае значэньне знаходзім у даўнејшај беларускај літаратуры і ўрадовых актах. Прыкл.: Яго Міласьць Гаспадар Вялікі Князь. Гаспадар альбо гаспадарыня стаялі на чале гаспадарства (państwo, государство). Там-жа—у старој літаратуры ј актах—гаспадарства,-а азначае так-жа шмат гаспадароў. Прыкл.: гаспадарства будзець несправядліва.; Таковыјі јіх будуць воjі ј баяра ј слугі па јіх прыкладзех. Сказаньне а Сівільле прарочыцы, перадрукаванае Я. Карскім у Варш. Ун. Изв. 1898 г.

Прыкмета ад гаспадарства будзе гаспадарсьцьвены,-ага — państwowy, государственный; ад гэтае прыкметы наз. јімя будзе гаспадарсьцьвенасьць,-і— państwowość, государственость.

Дачка гаспадарова звалася гаспадарычна,-ы. Напр. у транскрыбаванај В. Вольскім і надрукаванај у „Узвышшу“ 1927 г., № 4, 135-146 часьці кнігі беларускіх мусульманаў знаходзім гэт‘кія прыклады: Як веле розных панонт (= панёнт — *Я. С.*) кролевічоў, ксёнжонт, господарскіх сыноў залецалі се, велькі скарбы унашалі, та гаспадарычня панна на тэ скарбы ніц не ўважала 140 бал. 11 зьв.; оддалі господарычне (= hospodaryčnę—*Я. С.)* за таго младзенца 146 бал. 11 зьв.; нашу господарычну пра(га)

даў 144, 33 зьв. Мова прыведзеных прыкладаў нягодная, бо рукапіс — прынамся надрукаваная ў „Узвышшу“ ягоная часьць — напісана мяшанаj беларуска-польскаj моваю, але гэта нічагусенькі не перашкаджае цэннасьці слова „гаспадарычна“, бо польскім яно ня можа быць. Адно няма ведама, ці ў разгляданым слове *н* будзе цьвярдое (гаспадарычна), бо ў варабскім пісьме мякчыня *н* не абазначаецца, ці мяккое (гаспадарычня); паводле чэскага slečna із šlechtična „паненка“ мела-б быць *н* цьвярдое, але паводле рас. барышня з боярышня з боярычьня—*н* мяккое.

У трэjцім і чацьвертым значэньню (пан, Пан, Господь) слова „гаспадар“ мусіла вымаўляцца борзда, што было прычынаю адпаду пачатнага *га-*: спадар, спадарыня, спадарычна, спадарства (спадары j спадарыні разам —państwo[1]. Некалькі прыкладаў: Spadaru Bože, čistaje vada tvaje 'ačiści cieła [1]) maje hrešnaje Аль Кітаб 71b,17; Bože Spadaru, jestem s piesku stvuronij (= створоныj—Я. С.) ib. 81a, 10; Bože Spadaru, ja jestem is piasku stvuronij i znovu 'u piasuk (=пясок) pajdzu (абмылка замест pajdu — Я. С.) i piaskom budu [2]) 'abiernienij ib. 81b, 2. Хто есьць спадар 1489 г. Я. Карскі, Русская Діалектологія. 98; спадарыня, соўнца, месяц, зьвездухна, даj крошку хлеба.. Спадарыня, перапёлачка, зорухна, зернетка, соўнушка, даj ложачку дзіцятку варыўуца сырога [3]) Баркулабаўскі летапісец, перадрук Е. Раманава, Вільня, 1910 г. бал. 39.

Яго спадарства [4]) пагібнець а воjінства Сказаньне а Сівільле Варш. Ун. Изв. 1898 г.

Спадарычна я ня сустрэў, але што гэтае слова мусіла быць, паказуе гаспадарычна.

Рас. государь, государыня, государство і пад. вымаўляюцца ў народнаj мове рас. з *h* на пачатку. Дзеля таго А. Шахматаў (Введеніе, бал. 87) думае, што гэтыя словы расеjскія былі перанятыя з украjінскае мовы. Тымчасам сама ўкраjінская мова ня знае словаў гаспадар і пад. ў значэньню „валадар“ і jінш. Менаваныя словы мусілі заjсьці ў рас. мову з мовы беларускае, з тых яе гутаркаў, дзе *о* па альбо перад вусьнянымі пераходзе ў *у*. Значыцца гаспадар 7 гаспудар, а з выпадам *и* — гасударь на расеjскім грунце. Таксама белар. спадар,-ыня

---

[1]) Апрача *s*, *z*, мякчыню сугукаў перад самагукамі паказую пры помачы *i*.

[2]) па *b* даўгое *u*.

[3]) Як заўсёды ў „Род. Мове“, і тут падаю паводле цяперашняга правапісу.

[4]) У „Выпісах з беларускае літаратуры“ Гарэцкага, Дзяржынскага j Каравая, ч. I., бал 207 гэтае слова (у варыгінале яно сподарьство) заменена на господарство, хоць навет стары правапіс у гэных „Выпісах..“ наагул захаваны.

былі перанятыя ў рас. мову як сударь-ыня. Дык-жэ дзеля таго ў рас. мове ё два аднакарэнныя словы з аднолькавым значэньням — господинъ і сударь—, што апошняе ў хворме спудар было перанята зь беларускае мовы і потым зьменена.

Спадар у значэньню рэлігіјным рана было выцісьнена царкоўна-славянскім Господь і адно ў мусульманскім рэлігіјным жыцьцю доўга аставалася, пакуль ня было з польскага боку выцісьнена словам „Пан".

Спадар,-ыня,-ычна,-ства, як далікатны зварот да чалавека, ужываліся шмат даўжэј, ажно пакуль ня былі пад польскім уплывам замененыя словам „пан" і г. д.

Але ясна, як мы вярнулі ўжываньне гаспадар і јіншыя ў значэньню „валадар" і пад., так трэба вярнуць ужываньне спадар,-ыня,-ычна,-ства. Гэтага вымагае арыгінальнасьць і чысьціня беларускае мовы. Апрача таго, за ўжываньне спадар і јінш. яшчэ тое прамаўляе, што з гэтымі словамі не зьвязана жаднае клясавае значэньне, але адно пашана да людзёў, да каторых зварочуемся, і душэўная незалежнасьць јіхняя. Слова „пан" астанецца адно дзеля абазначэньня клясавае прыналежнасьці. Праўда, прыјшлося-б пачакаць з тактычных прычынаў з паваротам слова „спадар" у рэлігіјнае жыцьцё.

Гаспода,-ы — mieszkanie, квартира, ужываецца як у старој беларускај мове літаратурнај, так і ў цяперашнај народнај. Хто жыве на гасподзе, тој гасподнік,-а, гасподніца,-ы — lokator,-ka, квартирантъ,-ка, жилецъ,-ица; хто најмае ня цэлую гасподу, але адно пакој, будзе падгасподнік,-іца — sublokator,-ka. Хто ј пакою не најмае, але жыве разам з гасподнікамі альбо собсьнікамі дому, тыј — кутнік,-а, кутніца,-ы. Словы гаспода, гасподнік,-іца, кутнік,-іца я чуваў паміж јіншым у Ашмян. пав.

## II. *Зајмо, најмо, перајмо, абыјмо, абыјмы, прыјмо, дајмо, најмо, ујмо.*

Ад дзеяслова *јьmǫ (блр. *му, -јму*) маем у беларускај мове назоўныя јімёны ніякага роду з націскам на канцы. Гэтак ад зајму ё зајмо (прыкл. сенажаці); ад најму — најмо (најміта, гаспады і јінш.), ад перајму—перајмо. Можна пераняць, прыкладам, уцякаючага або ўцеклага каня; сама гэтая дзејнасьць (перајманьне) і падарак, плата за яе завецца перајмо. Выјсьці чалавеку на перајмо, значыць—выјсьці на сустрэчу. Вышменаваныя тры слове агульна ведамыя, сам я јіх чуваў у Ашм. пав.

Абыјмо,-а—obwód, objętość, объемъ і абыјмы,-аў —objęcie, uścisk, объятіе—словы, здаецца, ўтвароныя, але

ўтвароныя ўмела паводле вышменаваных народных. Адно трэба зацеміць, што можа быць толькі абыјмы (а не абојмы), бо маем абыјм*у*, аб*ы*јмеш, аб*ы*јме[1]) і г. д.

Прынялося такжа ўтваронае мною прыјмо,-а (прыјмо вучаньнікаў у школу і пад.).

Ідалеј—ад дајму будзе дајмо,-а (тое, што дајмае, даняло) — wrażenie, впечатлѣніе; ад пајму—пајмо,-а—pojęcie, понятіе у значэньню ідэі спакменю (прадмету), бо паніманьне, разуменьне абазначаем словам „паняцьце“: ня мець паняцьце,-я аб чым, меці сякое-такое паняцьце аб чым-колечы і пад.

Најлепшы псыхолёгічны тэрмін славянскі, абазначаючы збор беспасярэдніх чуцьцёў, ё чэскі vjem. Згодна з вышсказаным, беларуская хворма гэтага слова мае быць ніякага роду і канчацца на націсьненае—о, пры гэтым пачатнае *v* перад *j* пярэјдзе ў *у* альбо *ў* — *ујмо,-а*.

Ня лішнім мо' будзе прывесьці некаторыя јінша-славянскія словы, утвораныя ад таго-ж дзеяслова, што ј вышменаваныя беларускія: рас. заемъ „пазыка“, чэс. zajem „зацікаўленьне“, рас. наемъ, чэс. najem, р. абъемъ „абыјмо“, чэс. dojem „дајмо“, р. прыемъ. ч. príjem „прыбытак“, pojem „пајмо“.

Ад асновы неазначанага ладу jęti (блр. няці) маем назоўнае јімя, утворанае суфіксам -ък-ъ – занятак,-тку, слова агульна ведамае, я чуваў у Ашм. п.—zajęcie, занятіе; паводле гэтага зроблена вынятак,-тку — wyjątek, исключеніе. Ад јімаці маем народнае падымак,-мку, *гэта з падымку сталася*, запіс мој у Краўскоj вол. Ашм. п.

*Спадкаемца, прыемца, прадпрыемца.*

Вышэј, пад. I. было з Аль-Кітабу прыведзена слова душаемца — тыј, што јме (бярэ) душу, ангел сьмерці. Дык ясна што јмучы (бяручы) спадак будзе спадкаемца,-ы, слова агульнага роду—spadkobierca, spadkobierczyni, наслѣдникъ,-ица; хто прыјмае — прыемца,-ы — odbiorca, пріемщикъ, получатель; хто прадпрыјмае – прадпрыемца,-ы — przedsiębiorca,-czyni, предприниматель.

**езьдзішча,-а.** Зямля, дзе рос лён, авёс, ячмень, бульба, завецца ляньнішча, аўсянішча, ячменьнішча, бульбянішча; дзе капаюць гліну, будзе гліньнішча; месца, па каторым цячэ рака—рэчышча. Дык тое месца вуліцы, па каторым езьдзяць, мусіць звацца **езьдзішча**,-а—пол. jezdnia. А месца вуліцы, адумысьля назначанае на хадню, будзе — **ходзішча**.-а; пол. chodnik, рас. тротуар.

**здавальны,-ага.** Гэт'кую прыкмету можна ўтварыць ад

[1]) курсавымі літарамі паказаны тут націск.

дзеяслоўнага jімені здаваньне (ад здавацца, здаецца). Прыр. пытацца, пытаньне — пытальны. Пол. rzekomy, pozorny, рас. мнимый.

**коўзалы**,-аў. Маем слова „коўзацца“ і пад., але ня маем слова дзеля абазначэньня прылады, пры помачы каторaj „коўзаемся“. Тымчасам тое, чым шыем, завецца „шыла“, чым сьвіньні рыюць — „рыла“, чым мыем — „мыла“, чым сіляюць птушкі — „сіло“ і пад.; дык тое, чым альбо пры помачы чаго коўзаемся, будзе коўзала,-а (ніякі род), а два коўзале (хворма парная) або коўзалы,-аў (хв. мн. ліку). Прыр. каўзель і jінш. ў І. „Род. Мова“ № 5, бал. 111. Пол. łyżwy, рас. коньки.

**незачэпны**,-ага. Магчыма, што гэтае слова навет народнае, а калі стваронае штучна, дык паводле таковых, як — начэпны і пад. Назоўнае jімя ад незачэпны ё **незачэпнасьць**, **і**. Словы гэтыя пачалі ўжывацца ў цяперашняj беларускаj мове літаратурнаj не пазьнеj як ад 1917 г. Нажаль некаторыя jіх забываюцца. Пол. nietykalny, nietykalność, рас. неприкосновенный, неприкосновенность.

**слухалка**,-і. Ня маем назову прылады, каторaj слухаем ля тэлефону, радыё і jіншых, а тымчасам прылада, каторaj качаюць хусьце, завецца качалка, каторaj пушчаюць каменьне — пушчалка, каторaj мяшаюць — мешалка. Дык прылада, каторaj ці пры помачы каторае слухаем, будзе — слухалка,-і (націск на *у*). Пол. słuchawka, рас. слухательная трубка.

**ходзішча**,-а. Глянь **езьдзішча**.

Др. Я. Станкевіч.

---

# Крытыкі j рэфэраты.

*Б. Тарашкевіч.* Беларуская граматыка для школ. Выданьне пятае пераробленае і пашыранае. Вільня. 1929 г. бал. 132 + IV.

(Канчатак).

Аб чужым *ф* аўтар гэтак кажа: „Апрача слоў здаўным-даўна абеларушчаных — Піліп, Язэп, хунт, кахля, хваля, Хама, Хведар...— чужаземны гук *ф* перадаецца праз *ф*: форма, фронт, маніфэст, фамілія, фабрыка, Францыя і г. д.“ (127).

Калі-б і прыняць такі прынцып „здаўным-даўнеjшага“ і, хіба, „нездаўным-даўнеjшага“ зьбеларушчаньня, дык будзе немагчыма ўстанавіць, якія словы аднесьці да гэнага, а якія да гэтага. Скуль, прыкладам, аўтар даведаўся, што „хунт“ адносіцца да „здаўным-даўнеjшага“ зьбеларушчаньня, а

„хворма“ і „хвабрыка“ да яго не адносіцца? Ліцьвіны, пераняўшы беларускую „хворму“, маюць у сябе „kvarmas“.

Але і наагул з таковым прынцыпам нельга згадзіцца. Калі рэагаваньне беларускае мовы на чужое *ф* за ўвесь час быцьця ейнага было аднолькавым — а яно таковым было — дык важны сам факт зьбеларушчаньня, а ня тое, калі гэта сталася.

Некаторыя неразгледжаныя аўтарам хвормы словаў, ужытых ім у тэксьце граматыкі.

Разгледжу тут адно таковыя слоўныя хвормы, з каторымі аніяк нельга згадзіцца.

1. Аўтар заўсюды піша мягкі 47, мягка 48 ды на бал. 50, 64, 72, 74, 120 і далей. А тымчасам па шчэзьненьню *ъ* (mękъkъ) два *кк* ў беларускай мове ў гэтым слове не распадобніліся, зн. ё *мяккі, мякка*. Прыр. аб гэтым у Я. Карскага II. 1. 476. У Менску і наагул у цэнтральнай Беларусі ўсі ўжываюць хворму гэтых словаў з двума *кк* і адно ў Вільні расейская хворма *мягкі* ўпорна падзьдзержуецца выдатным публіцыстым А. Луцкевічам і Б. Тарашкевічам.

2. У граматыццы знаходзім здраджу 44, 49, 123, здрадніка—заўсюды з устаўным *д*, а тымчасам беларуская хворма менаваных словаў ё бяз *д*, зн. *зраджу* і г. д.

3. Б. Тарашкевіч піша бязсумліўны 3. Гэта ўкраінізм, бо слова паходзе ад *сумляваціся* (з сумлеваціся); па *л* маем *е* з *ѣ*, каторае адно ў украінскай мове перайшло ў *і*. Пабеларуску ё: сумлеў, сумлеўны, бяссумлеўны і пад.

### Абмылы ў тэксьце граматыкі.

Ня буду прыводзіць тут тых абмылаў, што бяссумлеву ўзьніклі як абмылы друку, напр. *наука* 127. Прывяду адно аўтарскія недагляды: вярхавінамі 12 [1]), надойдзе 36, зам. надыйдзе. цукар 69, гэтае слова з цукр, зн. перад *р* маем устаўны самагук, як у агонь; у блр. мове па *к* можна спадзявацца толькі ўстаўнога *е*, дык будзе *цукер* (вымаўляецца *цукяр*), як і ў народнай мове. Апрача таго ў блр. мове канцавое *р* па сугуку магло-б вакалізавацца і потым перайсьці ў—*ір*, дык магло-б быць яшчэ *цукір*. *ва* ўсіх 24,85 — хворма расейская, у блр. мове — у ўсіх, ува ўсіх. Карнямі 65, корні ibid., корнем ibid., 66, корняў 66, корню 67— хвормы чыста расейскія з выпалым *е*; пабеларуску — караня, каранём, карані і пад. альбо зборн. карэньне.

Націск небеларускі ё ў гэт'кіх словах: наступн*ай* 24,

[1]) Літары, надрукаваныя курсывам, пастаўлены ў граматыц ы абмыльна. Лічбы паказуюць балонкі ў граматыцы.

ун*а*чы 42, мар*о*зы 43, в*е*тры 43, м*а*рскія 77, дабр*о*дзей 112, замест: наступноj, уночы, маразы, вятры, морскія, дабрадзеj.

Замест правільнага *j* маем *і* ў прыкладах: практыка *і* крытыка 3, магчымасьці *і* патрэбы 5, разьвіцьця і поступу ibid. Увагі і параграфы ibid., дзяўчына і Маня 13, возера і Нарач 13, собскае і агульнае 13, жаночы і ніякі 14, зязюлі і дразда 14, вераб'і і дзятлы 15, гусьцее і гусьцее 25, ўмоўны і загадны 27, У стуку і груку 43, Просты і зложаны 44, Дзеканьне і цеканьне 51, звонкія і глухія 53, добра і прыгожа 108 і jіншыя; гэта ўсё аўтар напісаў проці таго, што сказаў сам у § 80 граматыкі. Проці таго-ж параграфу напісаў: плытнік *ў* полі 47, толькі *у* множным 69.

Проці самога сябе (§ 85) напісаў таксама бязсумліўны 3 (*з* перад *с*).

Пераход *дн* у *нн* ё асаблівасьцяj расеjскаj (паўночнарасеjскаj), у беларускаj мове гэтую зьяву сустракаем толькі ў некаторых мясцовасьцех; дык русыцызмам ё пісаць сягоньня 57 зам. сягодня.

жывёла ўжываецца толькі ў вадзіночным ліку, дык ня можна казаць — жывёлы даюць.. мяса 43.

Проці прызнаных сабою — і jіншымі — хвормаў аўтар напісаў: людз*я*м запеў 10, хоць там-жа—галавою добрым людзём кіўне; на сваіх плячах 91, плеч*а*х 70, зам. плячох; 4. каго, што (віню)? работніка, *молата* 16; Вінавальны валоў 70 (глянь § 15 бал. 71). У вапошніх трох прыпадках маем абмылы навет у прыкладах (у ўзорах скланеньня).

Крыльле зборнае jімя, дык будзе крыльлям, а ня — крыльлямі 64.

Хоць на бал. 89 аўтар кажа пісаці двама, а на 103 е*ж*, але сам піша двумя 32 і е*ш* 23, праўда ё j е*ж*це 55. Хоць на бал. 104 добра кажа пісаць колькі, толькі, але сам піша сколькі 9, 47, 66, 68, 69, 93, столькі 129.

Прыjмя *па* вымагае меснага склону, дык мае быць— па адным прадмеце, а не—Назаві па аднаму прадмету 9.

Некаторыя з прыведзеных абмылаў, узядзеныя аўтарам зь вершаў або рымаванае прозы, але гэта не зьмяншае віны аўтара: у такіх прыпадках трэба папраўляць мову паэтаў або ня браць у jіх прыкладаў.

*Барбарызмы ў тэксьце граматыкі.*

Напісана: пахібы 3, спаўна перароблена 4, аблягчыць 5, замест правільных: заганы чыста, радыкальна перароблена, палягчыць. Замест—падгатоўкі 5, беспасрэдна 9, дабрата 9, 69, запах 9, яйко 10 — маюць быць: прыгатовы, беспасярэдне, дабрыня, пах, яjцо. Замест — шты*к* 10, Параўняй 15, 47, 54, Ніхто з дамашніх не згадае 22, Па мне хоць воўк сабе траву еж 23, бледны, бледна 30, 54 — павінна быць: шты*х*, Прыраўнуj, Ніхто з хатніх..,

Па дзеля мяне, бляды (націск на *-ы*), бледа. Замест — Вецярок 30, дапамога 33, што наступае пасьля зімы? 38, се*й*біт 39, лятаюць 39 — трэба: Ветрык, памога, што настае.., сяўбіт, сявец, лётаюць. Таксама барбарызмы—выліняў 44, зьліняюць 114, вуг*а*л 47, нявуцтва 49, гартані 52; пабеларуску ё: вылінаў, зьлінаюць, вуг*о*л, няўменьне, мо' няўмецтва (ад„няўмека"), грытанкі. Пакрывіцку (пабеларуску) нельга сказаць „Галасавыя вязі.. размыкаюцца, змыкаюцца або зусім замыкаюць гартань" 52, бо замыкацца і пад. можа толькі тое, што мае замок. Гэтта трэ' сказаць: „Галасавыя вязі разыходзяцца, зыходзяцца або зусім зачыняюць грытанку". Ня меншыя барбарызмы—лабудзь 55, 123, яблын*і* 55, няздарай 57, недамагаць 59, недастатак 59; пакрывіцку ё: лебедзь, яблын*ы*, зломкам, няўздоляць, нястача. Замест чужых—бялізну 64, 68, домік 65, бядняк 65, прачка — мае быць: хусьце (альбо порце), дамок, бедны (або галеча), мыцьцёха. „Салёная" тое самое, што „пасалёная", дык вада ў мору будзе не салёная 77, але салоная. Знайшоўся навет такі маскалізм, як страпуха 80, гэта намаскоўску знача „кухарка". Замест — зьвініць сталёвы лом 101, прышласьцю 101, строіць дом 101, Астальныя формы 103, пракраснае 114 — мае быць:.. зелязьнік, будучыняј, ставіць дом, Асталыя хвормы, пазорнае, најхарошшае. Замест - дрож 118, тросьць 118, глотка. ib. Навагрудзкі 119, равольвар 126—павінна быць: дрыготка, трысьціна, глытніца, Навагарадзкі (або з прапушчэньням *а* па *г*— Наваградзкі), леварвэр.

Маскалізм ё сынтаксычнае выражэньне — дайшлі да хаты *праз* гадзіну 34—дзе *праз* ё даслоўны пераклад расејскага через; пакрывіцку будзе з*а* гадзіну. Дзеяслоў „кіраваць" вымагае вінавальнага склону, дык ня можа быць кіруе склонам 33, але — кіруе склон.

Прыказка — Найшла каса на камень 33 — расејская, ёј адпавядае беларуская — чорт на паганага папаў.

## Колькі добрых навінкаў у слоўніку граматыкі.

Проці першае рэдакцы знаходзім у слоўніку 2-ое рэдакцы колькі добрых навінкаў. Вось яны: назоў 11, 12, назовы ibid., собскае 13 і јінш. Гэтыя словы першы з народнае мовы ўвёў у літаратурную др. Я. Станкевіч. лацініца 49. Замест чужое хвормы „шляхці*ц*", ужыта цяперака свая — шляхціч 68. У даўнејшај мове літаратурнај вылучна шляхціч (з ч на канцы).

## Тэрмінолёгія.

Најлепшая граматычная тэрмінолёгія — гэта клясычная. Клясычнасьці было крыху ў тэрмінолёгіјі першае

рэдакцыі граматыкі Тарашкевічавае. Замест пашырыць, аўтар у другой рэдакцыі сьцер яе зусім. Гэтак пажадана было-б ужываць—назоўнае jімя, прыкметнае jімя, лічбавое jімя, але ў другой рэдакцыі знаходзім і м е н ь н і к, п р ы м е т н і к, л і ч э б н і к. Замест добрага з а j м я (pronomen) маем з а й м е н ь н і к; замест п р ы j м я знаходзім зусім нягоднае п р а д л о г. Слова „прошлы" ў крывіцкай мове ня ўжываецца, замест яго ё „мінулы", дык мае быць м і н у л ы а ня п р о ш л ы ч а с. Дзіўна такжа гучыць б у д у ч ны замест б у д у ч ы. Infinitivus паказуе неазначаную хворму дзеяслова, дык і павінен звацца н е а з н а ч а н ы л а д, а н е н е а з н а ч а *ль* н ы лад (у 2-ой рэдакцыі зьменена на н е а з н а ч а л ь н і к).

У сваёj-жа тэрмінолёгіі аўтар блытаецца. Гэтак на бал. 37 дае назоў „Сказы.. клічныя", а на бал. 38 колькі разоў кажа „усклічныя". Ё j шмат горшы прыпадак у рэдагаваньню граматыкі. На бал. 10 § 3 чытаем: „Да ажыўленых прадметаў залічаем людзей, жывёліну і расьліну; да неажыўленых—рэчы і зьявішчы". Але ў § 10. (бал. 15) кажацца: „Аб ажыўленых прадметах гаворым *хто*, аб неажыўленых *што*. Але ў мове (і ў граматыцы) расьціны залічаюцца да неажыўленых, і аб іх гаворыцца „*што*". Выходзе, што аўтар у § 3 гаманіў аб батаніццы і толькі ў § 10 перайшоў да граматыкі.

---

Дзеля нястачы месца ня буду разглядаці граматыкі з гледзішча пэдагогічнага. Але ўжэ з разгледжанага відаць, што няяснасьці, супярэчнасьці, мноства розных абмылаў робяць яе вельмі непэдагогічнай. Ажно дзіва бярэ, што так выдадзена *граматыка*!

**Брачыслаў Скарыніч.**

(К а н е ц).

*Р. Астроўскі*, Беларускі правапіс. Компіляцыя паводле Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка. Выданьне 2-ое папраўленае і дапоўненае. Вільня. 1930, бал. 148.

Кожная компіляца мае ўсі заганы працаў, з каторых скомпілявана. З рэцэнзі Бр. Скарыніча, што канчаецца ў гэтым нумары „Роднае Мовы", мы бачым заганы граматыкі Тарашкевічавае. Ё jіх ня мала. Усі гэныя заганы ё j у компіляцы Р. Астроўскага. Ня буду тут на jіх задзержавацца; зьвярну ўвагу адно на тыя заганы j абмылы ў „Правапісе" Р. Астроўскага, каторыя ё ў jім новыя ў прыраўнаньню з граматыкай Тарашкевічавай. Аўтар гэтых радкоў не разглядаў граматычных працаў Лёсікавых, але думае, што гэта рэцэнзі не пашкодзе, бо дзеля ацэны „Правапісу", як такога, усё роўна, ці што зьявілася ў jім упяршыню, ці было перанесена ад Я. Лёсіка.

Дзіўноj і агульнаj асаблівасьцяj „Правапісу“ Р. Астроўскага ё ягоная вылучная „правапіснасьць“. Аўтар наагул ня выясьняе вымовы j зьмены гукаў, тварэньня казаньнеў (сказаў) і jінш., але толькі кажа калі што трэба *пісаць*. Такая мэтода шкодная як з гледзішча граматычнага j наагул языковага, так і з пэдагогічнага. Няможна такжа каб дзеці вучыліся граматыку з аднае кніжкі, а правапіс з другое, бо яны цесна злучаны паміж сабоj. Пры выясьненьню кожнае языковае зьявы трэба, каб дзеці ўсьвядомілі або скорэговалі вымову яе (граматыка) і зараз-жа гэную вымову навучыліся перадаваць пісьмом (правапіс).

Пярэjдзем да асобных зьяваў, пачаўшы спачатку.

Аўтар кажа: „У вершах дзеля разьмеру можа быць *ў* заместа *у* — і наадварот“ (15) [1]). Тымчасам па сугуку папярэдняга слова *ў* замест *у* ня можа быць, бо немагчыма выгаварыць; таковы разьмер вершу будзе чыста літарны (дыкжэ пісаны—„правапісны“), а ня гуковы. Б. Тарашкевіч проці такое замены выразьліва перасьцерагае на бал. 116 свае граматыкі.

Зараз па прыведзеным чытаем: Гук *і*, стоячы асобна ці на пачатку слова, таксама пасьля галосных скарачаецца, але не заўсёды і *толькі дзеля складнасьці* (падчыркнуў я — *С. Я.*). З гэтаj „складнасьцяj“ ня зусім выходзе складна. Як яе пазнаць? Ня ўсі-ж маюць такі музыкальны слух, як аўтар „Правапісу“.

„Калі на гук *і* падае націск, то *і* ніколі не скарачаецца“ (16) і тут-жа прыклады: „Лянiваму каню *і* дубіна ня страшна. Аднаму і ў кашы няспорна. Вось табе і на!“ Ува ўсіх гэтых прыкладах замест *і* ё j нескладовае, яно j ненацісьненае.

„*Прыдыханьне і, а* (падч. я—С. Я.) часта зьяўляецца перад злучэньнем двух або трох зычных на пачатку слова: *іржа*, імгла, імжака, ільняны—альняны“ (16). Калі аўтар у прыведзеных ці ў якіх хаця jіншых прыкладах *і, а* „прыдыхае“, дык ён кожны самагук усюды „прыдыхае“. Цікаўны чалавек!

„Склады *ро, ло, ле* не пад націскам пераходзяць у *ры, лы, лі*: гром—грыміць..“ (17) Ці *ро, ло, ле*, што ў словах — росны, варона, просты, рос, дроб, просьба, клопат, галосны, злосьць, лепшы, левы, хлеў і пад. — таксама пераходзяць у *ры, лы, лі*, калі апынуцца ў палажэньню не пад націскам? Ведама, што не. Дык прыведзенае Р. Астроўскім „правіла“ нічога не памагае. Трэба *ы, і* па *р, л* некаторых словаў выясьніць начаj.

„Гук *г (g)* таксама наjчасьцеj ужываецца ў словах чужаземных (*ганак)*, але гэты гук ёсьць і ў беларускіх сло-

---

[1]) Лічбы паказуюць балонкі ў „Правапісе“.

вах, *асабліва ў злучэньні зг*[1]): мазгі, розгі“ (18). „Асабліва“ паказуе, што *g* бывае ј без папярэдняга *з*, а тым часам гэтак ня бывае.

У аўтара *м*, *н* такжа гукі *плаўныя* (19).

Хіба звычајны недагляд ё ў „чуваць—даццы, пішацца да*т*цы“ (34 § 13). У *ы* на канцы тут тая-ж абмыла, што ј у Тарашкевіча.

Р. Астроўскі згаджаецца з Б. Тарашкевічам, што „калі прыймя канчаецца на зычны гук ды зьліваецца з словам, якое пачынаецца гукам *і*, то ствараецца гук *ы* (*зышло — з+ішло, спадыспаду — спад+іспаду*) бал. 36 „Правапісу“. Але на бал. 37 у „практыкаваньню“ Р. Астроўскі несьвядома зьбівае свајімі прыкладамі (абыйшоў, сонца ўзыйдзе) гэтае „правіла“. Бр. Скарыніч у сваёј рэцэнзі „Род. Мова“ 143 добра паказаў як ё, калі прыјмя з даўнејшым (спрадвечным ці паўсталым паводле аналёгіјі) ъ, а цяпер із сугукам на канцы, будучы прыстаўкаю, лучыцца з групаю **јь-*, паіменна ё тады *-ыј* (*абыјдзе, зыјдзе*), гэтае *-ыј-* у некаторых гутарках беларускіх пераходзе ў *-ы-* (*зыдзе*). Јіншая рэч, калі прыјмя-прыстаўка з ъ на канцы, а пацяперашняму выгляду із сугукам на канцы, лучыцца не з даўнејшај групаю **јь-*, але з *і*; тады запраўды маем *ы* (спадыспаду).

Нельга так агульна казаць „У месным склоне таксама будзе *у*, калі іменьні мужч. і ніякага роду маюць аснову на *к*“ (45), бо маем і—*на языцҷэ, умалаццэ* ды јінш. Б. Тарашкевіч у гэтым прыпадку кажа „блізка заўсёды“ бал. 74 — асьцеражнеј.

Нямашака патрэбы асобна казаць, што „У назовах установ чужаземнага паходжаньня ў родным склоне таксама пішацца *у* (*ю*), напр.: пятага *комісарыяту, вакол парлямэнту*“, бо падобныя словы характарам свајго значэньня нічым ня розьняцца ад такіх беларускіх, як—*народ, наход карагод*.

Р. Астроўскі напісаў не дыялектолёгію, але правапіс беларускае мовы літаратурнае, дык няма чаго пісаць, што „У некаторых словах у родным склоне канчатак *у—а* ўжываецца аднолькава, з роўным значэньнем‘ (48). Пры розьніцы дыялектычнај маюць ужывацца ў літаратурнај мове тыя хвормы, каторыя згаджаюцца з агульным кірункам развою адпаведных хвормаў у беларускім языццэ (*аўсу, плоту*). Яшчэ гарэј такія азначэньні, як „у некаторых словах“, бо яны даюць шырокае поле самадуму (не бяда, калі-б адно дзяцём, але розным мудрагелем).

„іменьні з устаўкаю *ан—ян* пішуцца з канчаткам *е*, хоць лепеј пісаць *ы*, напр.: сяляне - сяляны, мяшчане—мяшчаны, цыгане—цыганы.. баяра—баяры“ (52). Дзіўна тут, што пі-

---

[1]) падчыркнуў я — *С. Я.*

шуцца гэнак (*е*), а ляпеј пісаць гэтак (*ы*). Дык як-жа запраўды трэба пісаць?! Маем заўсёды *цыганы* а ніколі *цыгане*. Відаць, паводле гэтага „*лепшага*“ (запраўды вылучна ўжыванага) *цыганы*, аўтар зрабіў такжа „лепшымі“ хвормы *мяшчаны*, *сяляны*, хоць яны, калі дзе ј ужываюцца, дык надта рэдка. Розьніца залежа ад таго, што ў вадзіночным ліку маем *цыган*, але селянін, мешчанін, хрысьцянін і пад., (а не с я л я н і пад.), дык першае мае ў мн. л. *цыганы* (як жбан—жбаны), а другія—сяляне, мяшчане і г. д. Ізноў-жа слова „баярын“ не адносіцца ані да катэгорыјі словаў, як цыган, жбан, ані да катэгорыјі м е ш ч а н і н і пад. Старая хворма наз. скл. мн. л. ад б а я р ы н ё б а я р а (з б о я р е), але магчыма ј новая, анолёгічная — б а я р ы.

„іменьні з устаўкаю *ат-ят* (назовы маладых жывёлін) таксама поплеч з канчаткам *ы*, часта пішуцца з *а*, напр.: куранята—кураняты, лісянята—лісяняты, ваўчанята—ваўчаняты.., дзяўчата—дзяўчаты і г. далей, а часам: рукава—рукавы, варота—вароты, дрэва—дровы“ (52). А тут ужэ зусім јіншая рэч. Усі прыведзеныя ў Р. Астроўскага прыклады ніякага роду (дзяўчо, дзяўча, дзяўчаты — таксама ніякага роду). У старшую пару беларускае мовы ўсі назоўныя јімёны ніякага роду канчаліся ў наз. скл. мн. л. (nominativus pluralis) на — *а* (*я*). Гэта быў канчатак праславянскі.

З часам на грунце беларускае мовы, дзякуючы яе фонэтычным асаблівасьцем, у ніякіх јімёнаў канчатак —*а* (*-я*) наз. скл. мн. л. пачаў замяняцца канчаткам *-ы*, *-і*. У наз. скл. адз. л. (nominativus singularis) было *а* (*я*) як у словаў жаноцкага роду (*лава*, *вішня*), так і нямаючых націску на канцы јімёнаў ніякага роду (сіта, поля), дык паводле жаноцкага канчатку мн. л. *-ы*, *-і* пачалі казаць такжа *сіты*, *палі*, замест ранејшых *сіта*, *паля*, а далеј і *вокны*, *јімёны*, калёсы, цяляты. Сталася гэта не адразу, і цяперака процэс гэты ня скончыўся ўва ўсёј беларускај мове. Яшчэ ў пал. XVI в. ў віленска-ашмянскај гутарцы јімёны ніякага роду мелі толькі *-а* (*-я*) ў наз. скл. мн. л. Процэс гэты пачаўся на паўночным усходзе і јшоў бязупынна на паўдзенны заход, дзе астачы хвормаў на *-а* (*-я*) чэзнуць цяпер на нашых вачох. Цяпер прынамся 4/5 беларускае народнае мовы мае хвормы на *-ы*, *-і* ў мн. л. і толькі каля 1/5 захавала да некаторае меры хвормы на *-а* (*-я*), најчасьцеј у јімёнаў із суфіксам *-ат* (*-ят*).

Процэс гэты чыста самастојны і вымагаецца характарам нашае мовы, стаўся ён і завяршаецца бяз жадных чужых уплываў; дык зь јім трэба лічыцца і ад јімёнаў ніякага роду ўжываць у наз. скл. мн л. толькі хвормы на *-ы*, -і (колы, парасяты, гусяняты).

„калі імя адносіцца да імя чалавека (імя собскае), дык скланяецца так: імёны, імёнаў, імёнам.. Калі-ж яно

ўжываецца ў адносінах да імёнаў прадметных (імя агульнае) дык множны лік побач з папярэдняй формай можа быць такі: іменьні, іменьняў, іменьням".. (52) Гэт'кімі мотывамі пэўне нашая мова ня кіруецца.

На тэј-жа бал. 52 аўтар прыводзе скланеньне: „н. в. к. імя, іме; род. імені, імя; дав. імені, імю" і г. д., але на колькі радкоў ніжэј кажа: „Словы семя (семе) і бярэмя (бярэме) мгюць дзьве формы: *Адзіночны лік*: н. в к. [1]) семя [2]) семе; род. семені, [2]) семя; дав. семені, [2]) семю" і г. д. Дык якая-ж тут розьніца?

Хворма наз. скл. адз. л. на *-е* (іме, семе, бярэме, замест імя, семя, бярэмя) абсалютна нічым не апраўдана. Гэта чысты скандал! Хворма гэтая павінна быць як најбаржджэј вымецена з нашых граматыкаў і правапісаў.

Аўтар не паказаў як скланяюцца п л я м я, ц е м я, с т р ы м я.

Р. Астроўскі кажа: У родным склоне множн. ліку йменьні ніякага і жаночнага (!) роду звычајна маюць форму чыстае асновы (без канчатка), напр.: сёлы—сёл.., рэкі — рэк.., маліны—малін".. (53). Дзеля таго што аўтар ня прывёў іншых канчаткаў роднага склону мн. ліку, дык ягонае „звычајна" сталася заўсёдным.

Запраўды ё наадварот: ня толькі ў імёнаў роду мускога, але такжа жаноцкага і ніякага ў род. скл. мн. л. звычајнај ё хворма на — *аў* (*-оў*), *-еў* (*ёў*). Глянь аб гэтым у рэц. Бр. Скарыніча „Род. Мова" 80.

На бал. 69 знаходзім „Не падлягаюць аканьню (яканьню) словы: Беларусь, белабрысы, сьветлавокі, ветрагон". Вось гэта дык чыстае адкрыцьце, толькі — непраўдзівае; менаваныя словы аканьню падлягаюць, на'т частква і на пісьме (і ў Астроўскага аканьне іх паказанае).

Крышку ніжэј чытаем: „Калі націск прыходзіцца на першую часьць складанага слова або на злучальны гук, то другая часьць падлягае аканьню.., напр.: поўнач, поўгада.. пакацігара.." (69. Тут п о ў г а д а і п а к а ц і г а р а маюць націск на канцы. Кажацца п *а* ў г а д а і п *о* ў г а д а; *о* ў вапошнім залежыць не ад складанасьці слова, але ад *ў*. Кажацца яшчэ *паў*—і *поў-году*.

Аўтар заяўляе „Чужаземнае цьвёрдае *л* перадаецца цьвёрда: Капітал, інтэграл, адмірал, артыкул, матар'ял" і г. д. (72). Мусіць Р. Астроўскі думае, што менаваныя словы расејскія, бо ў мове лацінскај у іх *l* не цьвярдое.

У § 26, 1 аўтар пытаецца „На месцы якога старасла-вянскага гукавога злучэньня зьявілася беларуская падвојнасьць зычных?" Няго-ж аўтар дапушчае ў дзяцеј знацьцё старацаркоўна-славянскае мовы, калі пры помачы яе хоча вучыць іх мовы беларускае? Там-жа ё пытаньне „Ці могуць быць падвојнымі ў канцы слоў *б*, *п*, *р*, *м*?" У *канцы*

словаў і жадныя јіншыя сугукі ня бываюць падвојныя але бываюць падвојныя перад канцом.

У казаньню „У нядзелю параненьку ва ўсе званы звоняць, а *панове-старастове* на работу гоняць“ у падчыркненых словах ня маем клічнага склону ў значэньню назоўнага, як кажа аўтар, але звычајны назоўны склон мн. ліку.

На јіншых граматычных заганах „Правапісу“ задзержуся пазьнеј.

У „Правапісе“ шмат барбарызмаў. Ё навет маскоўскія прыказкі. Напару аўтар беларускія прыказкі неяк дзіўна перакручуе. Аб гэтым ніжэј.

Гэтта адкажу на адну слоўную навіну аўтараву.

На бал. 69, у вынасцы знаходзім гэт'кую красачку творства самога аўтара: „Зямляроб“ — слова не беларускае; гэта няўдалы украінскі пераклад расійскага слова „земледелец“; пабеларуску трэба казаць *рольнік* ад слова „ральля“ а таксама *рольніцтва* а не „земляробства“ (рас. „земледеле“). На гэта адкажу:

1. Усім собскім (а не пазычаным ізь неславянскіх моваў) словам кожнае славянскае мовы адпавядаюць словы аднакарэнныя ў јіншых славянскіх мовах[1]). Дык паводле прыкладу Р. Астроўскага можна было-б, прыкладам усі беларускія словы, перарабіць на спосаб польскі або расејскі, чэскі, сэрбскі ј јіншы; тое самое можна было-б зрабіць з мовај польскај, сэрбскај і јіншымі. Ад мовы гэтак перарабленае нічога не асталося-б, яна шчэзла-б.

2. Беларускае слова „ральля“ ня знача таго, што папольску „rola“, але знача „ўзаранае поле“. Зычэньне п. Р. Астроўскага, каб ад „ральля“ было назоўнае јімя, беларуская мова здаволіла тысяча год назад і здаволіла вельмі шчодра, утварыўшы наз. јімёны „араты, ратај, аральбіт“; усі гэтыя словы абазначаюць а р у ч а г а ч а л а в е к а.

3. Слова „земляроб“ у Украјінцаў нямашака; яны гэтага слова не перакладалі, затое яно ё ў Чэхаў і Баўгараў.

4. У Расејцаў словы „земледѣлецъ, земледѣліе“ пазычаныя з царкоўна-славянскае (стара-баўгарскае) мовы. Собскае слова расејскае ё „хлѣбопашецъ, хлѣбопашество“, з каторых і перарobленыя ўкраінскія „хлібороб, хліборобство“. Гэтага-ж „хлебароба“ ј Р. Астроўскі ў свајім „Правапісе“ часта ўжывае.

5. Пабеларуску кажацца „ураблять, рабіць зямлю“; адгэтуль зусім прыродна з е м л я р о б, з е м л я р о б с т в а.

Свајім „творствам“ п. Р. Астроўскі зрабіў шкоду беларускај мове: некаторыя някрытычныя людзі пачалі гэтае слова ўжываць, а Ул. Знамяроўскі даў навет свајму календару на 1931 г. назоў „Рольнік“. **С. Я.**

(Канчатак будзе).

[1]) Тое самое ё паміж германскімі мовамі.

## Проф. К. Ніч аб беларускіх уплывах на польскую мову.

6 ј 7 мая сёл. проф. Кракаўскага ўнівэрсытэту К. Ніч меў у Вільні ў Інстытуце Дасьледаваньня Усходняе Эўропы трыгадзінную лекцыю на тэму: „Узаемныя ўплывы польскага ј рускіх языкоў“, разумеючы пад словам „рускіх“ — беларускі, украјінскі ј расејскі языкі. Уплывы расејскае мовы на польскую проф. Ніч агранічыў да мінімальнае колькасьці, што адбілася адно ў некаторых словах, ствараючы ў польскај мове невялічкую колькасьць русыцызмаў. Пачатак уплываў расејскае мовы на польскую аднёс да вельмі позьняе пары, пајменна да канца XIX і пачатку XX стагодзьдзя.

Затое паводле проф. Ніча ўплывы беларускае ј украјінскае мовы на польскую былі шмат вялікшыя, некаторыя зь іх пачаліся яшчэ ў сівој мінуўшчыні і пакінулі свој сьлед ня толькі ў васобных словах і некаторых фонэтычных асаблівасьцех польскае мовы, але навет у языковај сыстэме.

Важна ўспомнець, што—як падчыркнуў лектар—паміж беларускім і ўкраінскім языкамі і польскім няма пераходных дыялектаў, як гэта ё між паўднёваславянскімі языкамі, і паміж першымі ј другім праходзе выразьлівая граніца.

Тут пакінем на баку справу ўкраінска-польскіх уплываў, а пярэјдзем да беларускіх, што балеј нас цікавяць.

Вось-жа паводле проф. Ніча беларускія ўплывы на польскую мову ў шыршај меры пачаліся ў канцы XVI в. і дзејілі аж да апошняга часу і наўперад адбіліся ў польскај мове літаратурнај.

Уплывы беларускае мовы на польскую проф. Ніч падзяліў на дзьве часьці: 1. На асобныя языковыя факты і 2. на цэлыя сыстэмы.

Адносна часьці першае ён падчыркнуў наўперад быцьцё ў некаторых словах польскае мовы гуку *г* (h) напр. ohłobla, hałas і г. п., каторыя ё бяссумлеву беларускімі.

Сюды-ж таксама аднёс некаторыя словы польскае мовы, як czeremcha, czereśnia і да г. п., у каторых ёсьць беларускае паўнагалосьсе, бо замест прасл. *-er-*, якое дае ў польскај мове *-re-*, маем тут беларускае *-ere-*.

З важнејшых уплываў беларускае мовы на цэлыя языковыя сыстэмы мовы польскае паводле проф. Ніча паміж іншым гэт'кія: 1. Шчэзьненьне ў польскај літаратурнај мове нахіненага *a* (вымаўляецца падобна да *o*), каторае ў усіх польскіх дыялектах сустракаецца ў 90⁰/₀ і каторае яшчэ ў XVI і ў XVII в. было ў літаратурнај мове, а ўжо ў XVIII в. чыста шчэзла. Мова беларуская, што ніколі ня мела нахіненага *a*, гэт'кај дарогаю выціснула яго з мовы польскае: як ведама, польскія пісьменьнікі XVIII ст., а на-

вёт і XIX, у пераважнаj большасьці паходзілі зь беларускіх этнографічных земляў, адкуль вынесьлі менаваную асаблівасьць, што чыста апанавала польскую літаратурную мову. 2). Gen. sg ад такіх прозьвішчаў, як Fredro, Matejko, Kościuszko — Fredry, Matejki, Kościuszki, але ня — Fredra, Matejka, Kościuszka — як гэта вымагае польская мова. Зьявішча гэтае выясьняецца тым, што ў бел. мове ў менаваных назовах на канцы чуваць *а*, а ня *о* (аканьне), што прыродна ў gen. sg. дае *-і*, *-ы*. 3) Гэтым-жа самым выясьняецца j другі ня менеj характэрны ўплыў беларускае мовы на польскую — на acc. sg назоўных jімёнаў жаноцкага роду. Паjменна: калісьці казалі папольску ў acc. (вінавальны склон, на пытаньні каго, што?) widzę moją żoną, dobrą dziewczyną і да г. п., а потым пад уплывам беларускім пачалі вымаўляць — widzę moją żonę, dobrą dziewczynę і пад. 4) *cz* у 1-аj ас. цяперашняга часу (*depczę, szepczę*) замест правільнага ў польскаj мове *с (depcę)*.

Апрача беларускіх уплываў на польскую літаратурную мову проф. Ніч угледзіў яшчэ шмат уплываў і на мову народную, на некаторыя дыялекты. Паводле яго мазурскі дыялект, маючы ў сабе шмат асаблівасьцеў, супольных з беларускаj моваj, а розных ад jіншых польскіх дыялектаў, у сівоj мінуўшчыні ў тыj ці jіншы спосаб быў пад уплывам беларускае мовы.

У цэлаj Сувальшчыне, каторая за гісторычнае Літвы не належыла навет да „Кароны", але да Вялікага Княства Літоўскага, ня было ранеj польскае мовы; цяперака там ё польская мова з мноствам беларускіх асаблівасьцеў.

Проф. Ніч выказаў об'ектыўны пагляд на так зв. „польскую мову крэсовую", у катораj, ня ў прыклад jіншым, кіруючымся палітычнымі мэтамі, ня бачыць асобнага польскага дыялекту, а толькі мэханічную мешаніну польскае мовы літаратурнае, ужыванае некаторымі, зь беларускімі асаблівасьцьмі.

Цікава j тое, як падчыркнуў проф. Ніч, што ё выразьлівыя беларускія ўплывы языковыя навет у этнографічнаj Літве, прыкл. у вокругу Панявескім, што выясьняецца беларускаj культурнаj экспансяj на літоўскія землі.

Як ведама, стычнасьць Палякоў з Украjінцамі настала на колькі стагодзьдзеў ранеj (у XIV ст.), як зь Беларусамі (XVI ст.). Украjінская Галіччына, пачынаючы з XIV ст., увесь час тварыла з Польшчаю адно гаспадарства, а jіншыя ўкраjінскія землі на заход ад Дняпра былі ў такім палажэньню ад Люблінскае вуні (1569 г.) да разьдзелу Рэчыпаспалітае; Беларусь-жа на працягу ўсяго свајго сутыку з Польшчаю ў большаj ці меншаj меры была асобным гаспадарствам. Але, нягледзячы на гэта, беларускіх уплываў у польскаj мове ёсьць ладне балеj, як украjінскіх.

Гэты факт—дадам ад сябе — бяссумлеву ёсьць рэзультатам абсалютнае перавагі беларускае культуры над украјінскаю за Вялікага Княства Літоўскага.

Варта пры гэтым будзе дадаць і тое, што беларускія ўплывы на польскую мову праважна јшлі зь беларускае мовы літаратурнае. Прыкладам хоць-бы менаваныя gen. sg. Matejki ј пад. ад слоў Matejko ј пад., што лучыў туды толькі зь беларускае мовы літаратурнае. У беларускај мове народнај на пагранiччу (Горадзеншчына) з польскај јімёны мускія тыпу бацька, Касьцюшка і пад. маюць *о* на канцы і вымаўляюць у gen. sg. *а*, напр. няма бацька, Касьцюшка, так што менаваная асаблівасьць у польскај мове магла паўстаць толькі зь беларускај літаратурнај мовы, јіншымі словамі, што ўрадовая ј літаратурная мова Вял. Княства Літоўскага была моваю беларускај.

Пераважная колькасьць менаваных уплываў на польскую мову јшла перазь беларускую шляхту, званую ў тој час„ літоўскај“. Наагул праф. Ніч назоў „Літва“, „Ліцьвін“, „літоўскі“ адносіць да Беларусаў; гэтак ён разумее такжа назоў Літвы гісторычнае — б. Вялікага Княства Літоўскага.

**Ст. Станкевіч.**

---

## Беларускія асаблівасьці ў баўгарскај мове.

Я. Карскі ў „Известиях по рус. яз. и сл.“ 1929 г. II. 2. зрабіў рэцэнзю баўгарскае граматыкі Сьц. Младзенава [1]). У гэтај рэцэнзі аўтар паміж јіншым кажа:

„Рас. дасьледавальніку кідаецца ў вочы аднолькавасьць баўгарскае рэдукцы самагукаў (аканьне) з паўдзённа-велікарускај і беларускај. Робіцца ясна, што адны ј тыя самыя зьявы бываюць у вабодвых языкох пры аднолькавым палажэньню. Што датыча беларускіх гутаркаў, дык прыродна прыпамінаецца адна рэч, на каторую ў свој час зьвярнуў маю ўвагу М. С. Дрынаў: пајменна, што адно з асноўных плямёнаў, што ўвајшлі ў склад Беларусаў — Дрыгвічы — мусіць сваё племені draguvitai [2]), што жыло ля Салуні, дзе была бацькаўшчына Канстанціна ј Мэтода, каторыя паклалі мясцовае нарэчча ў васнову літаратурнага старабаўгарскага языка... Тое-ж часткава трэба сказаць і аб адзьдзеле сугукаў. Гэтак, на дзіва, у нова-баўгарскај мове маем *черево, череша, черен* (чырен), *череп, черясло* і јінш. з паўнагалосьсям, сустракаем прыпадкі ацьвярдзеньня *р* (бал. 132), выпаданьне паміж самагукамі *й* з *v* (бал. 138, 227), з каторае нельга не скарыстаць дзеля высьненьня рэдкіх беларускіх хвормаў, як *дзякеј* (давальны склон адз. л. з

---

[1]) Mladenov Stęfan, Geschichte der bulgarischen Sprache. 1929.

[2]) Перадаю лацініцаю, бо ў друкарні нямашака грэцкае абэцэды. — С. Я.

*дзякеві*). Наагул розныя зьмены сугукаў у жывых баўгарскіх гутарках размавітыя.. можна знајсьці паралелі да розных дыял. рысаў рускае мовы (прыр. 146 бал. аб мяшаньню *ч* і *ц*, як у паўночна-велікарускім, прапушчэньне *ж* паміж самагукамі, прыр. 153, як у беларускај мове, кае—каже, мое може і јіншыя)“.

„К вопросу о происхождении названия „Белая Русь“. Пад такім назовам проф. Саратаўскага ўту, Г. Ільлінскі, надрукаваў артыкул у „Slavii“ VI, 2-3, бал. 388-393.

Аўтар зьвярнуў увагу, што назоў „Белая Русь“ наўперад (у XIV ст.) зьяўляецца ў Палякоў і прускіх Немцаў, каторыя яго таксама маглі ўзяці ад Палякоў. У тыј-жа час і за ўсяе гістарычнае Літвы самі Беларусы сябе гэтым іменям не называлі. Просьле таго як ладная частка Беларусі была прылучана да Маскоўшчыны, маскоўскія цары ўставілі ў свој урадовы тытул „Царь всея Великия и Малыя и Бѣлыя Руси“. Сталася гэта прыраўнальна позна, не ранеј гаспадараньня Аляксея Міхајлавіча. „Але няма сумлеву — кажа аўтар, — што ня з вуснаў мясцовага (беларускага) насяленьня пазычыў тэрмін Белая Русь маскоўскі заграцічны прыказ“ [1]). З гэтага відаць, што назоў „Белая Русь“ мог зьявіцца на заходзе, але не на ўсходзе.

Далеј аўтар прыводзе ўстаноўлены факт, што тэрмін „Чырвоная Русь“, каторым называлі Галіччыну, а ня рэдка і усю Украјіну, пастаў ад м. Чэрвена. Г. Ільлінскі цьвердзе, што і назоў „Белая Русь“ паўстаў ад мясцовых назоваў географічных, маючых карэнь *бел-*. Дык-жэ на заходзе Беларусі, недалёка ад польскае этнографічнае граніцы, маем павятовае места *Бельск*, ля р. *Бялянкі* і *Белае*, прытокаў Нарава, ад каторых ён пэўне дастаў свој назоў. Бельск ведамы ў гісторыјі з 1253 г. Апрача таго тут ё м. *Беласток* ля р. *Белае*, прытоку р. Супрасьлі, ведамы з XIV ст., *Белавеж* ля ракі Нараўкі, м. *Белая* ў Холмшчыне [1]). Ад менаваных мясцовасьцеў акалічныя землі беларускія дасталі ад Палякоў назоў Беларусь, каторы быў з часам пашыраны на ўвесь беларускі крај.

---

[1]) У тыј час маскоўскае грамадзянства і просты народ звалі Беларусаў Ліцьвінамі Просты расејскі народ і дагэтуль гэтак заве наш народ — *С. Я.*

[1]) Як ведама, цяпер Холмшчыну залічаюць да прастору ўкрајінскага. Дзеля таго проф Г. Ільлінскі зацеміў: „Апошняму вываду ані не пярэча тыј факт, што цяперака „Падляшша“ населена народам, гамонячым у нарэччу пераходным ад паўночна-ўкрајінскага нарэчча да беларускае мовы; ня можа быці сумлеву, што цяперашнія паўночныя Украјінцы („малорусы“) прадстаўляюць пазьнејшых колёністых, каторыя балеј альбо менеј моцна асымілявалі сабе спрадвечнае беларускае насяленьне“ (бал. 393).

Гэтае выясьненьне назову „Белая Русь, Беларусь, Беларус“ ё запраўды пераконуючым.

Ад сябе яшчэ дадам, што ў нацыянальным назове „Белая Русь“ і пад. ў вадносінах да Беларусаў было навіною ня толькі слова „белы“, але ј „Русь“. „Русяј, Русінамі“ называлі сябе Беларусы ў значэньню рэлігіјным. Гэтым-жа јіменям „Русь, Русіны“ зваліся Украјінцы так-жа ў значэньню нацыянальным. Палякі, каторыя ранеј і на даўжэјшым прасторы гранічылі з Украјінцамі, сустрэліся зь Беларусамі — у значэньню рэлігіјным таксама Русінамі. Пабачыўшы ў Беларусах накшы народ, Палякі, паводле географічных назоваў з каранём *бел-*, назвалі јіх Беларусамі, каб адрозьніць ад Русіноў-Украјінцаў.

Белај Русяј называў свае землі яшчэ маскоўскі вялікі князь Іван III, але тут проф. Г. Ільлінскі сьхінаецца да выясьненьня, зробленага Тацішчавам, каторы бачыў гэтта татарскі ўплыў. Пајменна: „у турскіх народаў падышах, хан і г. д. вельмі часта лучацца з эпітэтам „ак“, г. зн. „белы“. Дык паводле татарскага звычаю маскоўскія гаспадары (князі, цары) сталі дадаваць да свајго тытулу эпітэт „белый“ („белый царь“ і пад.); адгэтуль часткава ј назоў зямлі „Белая Русь“.

„К истории белорусского языка в XVII столетии“. Пад такім назовам проф. Я. Карскі надрукаваў артыкул у „Известиях по русскому языку и словесности“ 1930 г. т. III, 1, бал. 55-74.

На пачатку свајго артыкулу аўтар кажа (перакладаю): „Памяткі беларускага языка XVII ст. розьняцца ад твораў, што зьявіліся бяссумлеву ў Беларусі ў XV — XVI ст., пры перавазе ў јіх мясцовых асаблівасьцеў, спорадычнымі ўкраінізмамі, напр. мяшаньням *и* ј *ѣ*, *и* ј *ы* і падобнымі рысамі. Калі прыпомнем, што гэта была пара красаваньня ў Кіеве, Львове, Астрозе брацкіх і наагул духоўных школаў, дык гэтая зьява нам будзе зусім зразумелая. У Вільні і наагул у Беларусі ў гэты час разьвівалася полёнізаца; дзеля падзьдзяржаньня „русского“ языка і „русское“ асьветы прыродны быў прыток туды ўкраінскіх научоных і пісьменных асобаў з паўдня. Ня мала ј беларускіх урадзімцаў дасталі сваю асьвету ў Кіеве і јіншых мястох паўдня дыј у сябе дома, але ад украінскіх вучыцялёў; ад јіх яны засвајнялі ўкраінскую („малорусскую“) вымову ј правапіс. Украінізмы пранікли не адно ў рукапісы, але на‘т у мясцовыя назовы: старыя, напр. *Мѣньскъ*, *Несъвѣжь* абярнуліся ў *Мінск*, *Несвиж*“.

Гэтая заява ведамага дасьледавальніка беларускае мовы — надта важная. Яна бяссумлеву абапертая на вывучэньню старых беларускіх памяткаў языковых і паказуе ня

толькі, што было ў XVII ст., але ј чаго ня было ў стагодзьдзех ранејшых, асабліва ў ст. XV—XVI. Яна адначасна можа быць „компасам“ пры дасьледаваньню беларускае літаратуры XVII ст.

Дыкжэ да таковых, выш схарактарызаваных проф. Я. Карскім беларускіх памяткаў, належыць Трыодзь Цьвятная XVII ст., каторую ён і разглядае. „Куплена яна ў Воршы проф. Л. Лаўроўскім (із Смаленску), цяпер належа да Бел. Акад. Навукаў“. Гэта царкоўна-славянскі рукапіс беларускае рэдакцы, маючы 255 лістоў. Рукапіс складаецца зь дзьвюх часьцеў — асноўнае альбо старое часьці, што ўзьнікла ў 3-ј чэцьверці XVII ст, і з часьцеў новых, каторымі запоўненыя выдзертыя лісты старое часьці. Гэтыя „ўстаўленыя лісты, пісаныя пазьнеј, але ў кожным прыпадку да новае аправы рукапісу, у каторую яны ўвајшлі, г. зн. да канца XVIII ст.“. „Відавочна, — кажа аўтар — рукапіс паўстаў у паўднёва-ўсходняј часьці Беларусі. Прыданыя (ўстаўленыя—С. Я.) лісты напісаныя там-жа, але асобај із Чарнігаўскага Палесься“ (57).

„У мяшаньню—кажа аўтар—на пісьме *ѣ* ј *и*, бяссумлеву, праяўляецца ўплыў украјінскае („малорусской“) графікі, аснованај на вымове старога *ѣ* як *и*. Зародкі гэтага мяшаньня можна бачыць у старшым характару (у старој часьці, подчырк мој — *Я. С.*), але асабліва яны частыя ў новым“. Паводле гэтага выглядала-б, што менаваны ўкраінскі ўплыў пачаўся ў 3-ј чэцьверці XVII ст. і запанаваў у канцы XVII і ў XVIII стагодзьдзю. Гэта адпавядала б тагачаснаму стану беларускае палітычнае ј культурнае актыўнасьці, аб каторај ведаем із гісторыі. Нагул трэба даведацца колькасьць памяткаў, абнятых вышменаваным украінскім уплывам і ўстанавіць граніцу яго пашырэньня ў часе.

Беларускіх асаблівасьцеў шмат у фонэтыццы рукапісу. Сюды паміж інішым адносяцца: 1) пераход *-ъ* у прыстаўках перад *јь-* у *-ы-* (изыйдо́ша 190 адв., обыйдѣте 103, обыймѣте 103), 2) аканьне, 3) *р* ацьвярдзелае. 4 ацьвярдзеньне вусьняных *б*, *в*, *м* на канцы складу, 5) ацьвярдзеньне прасл. *ц*, *ж*, *ш*, *ч* і навет стараславянскіх *жд*, *щ*.

У рукапісу пастаўленыя націскі, каторыя — як зацемлюе аўтар артыкулу—часткава адбіваюць націск паўднёваславянскага арыгіналу, часткава націск агульна ј мясцова беларускі альбо ўкраінскі. Прывяду з артыкулу словы, што, мне здаецца, маюць націск асабліва характэрны для беларускае мовы (калі націск не паказаны аканьням, дык яго абазначаю курсыўнај літарај): сымвол *), еўрэянка,

*) падаю прыклады паводле цяперашняга правапісу — С. Я.

зямлю, на гару, гару, за руку, дажд мі руку, ваду, чыстую ваду, цану, расу, радаваньне, чынове, шосты, благаглагалівы (прыр. *лобівы*, ужыванае ў Случчыне, у іншых мясцох кажуць *любовы* — любівае, любовае мяса), восьмага, морскую, радаваціся, не магуць (такі націск ужываецца цяпер у Случчыне, гл. казкі Сержпутоўскага), іспавядаіцеся, пасьлядуіце.

У тэј-жа кнізе „Материалы для изучения говоров Велижского уезда“ І. Кузьміна (бал 179-204). Гэта ё адказ на праграму Я. Карскага дзеля зьбіраньня асаблівасьцеў беларускае мовы. Адказ грунтоўны і ладне дае матар'ялу, прытым-жа І. Кузьмін, хоць і абруселы Беларус, але аднёсься сумленна да свае беларускае работы. Агульна зацемлю, што — як паказуе аўтар — аканьне ў Вяліскім пав. дысыміляцыјнае (*ныга*, але *нагі*), але яно памалу замяняецца на аканьне недысыміляцыјнага тыпу (нага, нагі). Гэта бяссумлеву ў гутарцы Вяліскага пав. стајіць у сувязі з тым, што „мова моладзі розьніцца ад мовы старых галоўна з боку фонэтыкі ј слоўніка. Мова моладзі јдзе па дарозе прыбліжэньня да расејскае літаратурнае мовы“ (бал. 189), начај кажучы, як ранеј царскі ўрад, так цяпер камуністычны вядуць абрусеньне беларускага народу.

Прывяду гэтта з адказу Кузьміновага некаторыя асаблівасьці, на каторыя ня лішнім будзе зьвярнуць увагу нашае інтэлігенцы.

*-ер-* з прасл. склад. *г* мяккога не пераходзе ў *-ёр-*: мерзьнець *), мерзьнем, мерзнуць (а ня мёрзнуць) 180.

*-ы-* на месцу *ъ* у прыстаўках: адыјшоў, зыјшла, абыјшла 181, увыјшоў 182, падыјшла 203; гэта *ы* пад уплывам цяперашняга часу—адыјду, адыјдзеш, дзе *ъ* перајшоў у *ы* фонэтычна перад *јь-.

*-јь- ў сярэдзіне слова ў моцным палажэньню перајшло ў *-је-*: яец, Траецкія сьяткі 181.

**јь-* ненацісьненае на пачатку слова адпадае: меня „јімя“, родн. скл.—меня, давал.— меню, в.—меня, тв.—меням, м.—аб мені.

*ѣ* ў *ё* не пераходзе: зьвезды.

— Дзірка, дзіравы.

*ј* прасл. паходжаньня перад *і*: јіх, јім; *ј* беларускага паходжаньня перад *і*: јімя, јікаўка, јісьціна 181, јіскра 188.

*в* перад *а* па прыјмені *у*: у вагонь 182, ці ў Вардынак ты јдзеш 197.

*ј* па прыстаўцы у ішоў: најшоў 181.

---

*) у вар. *мерзьніць*; апрача разгляданае асаблівасьці ўсё пішу паводле прынятага правапісу.

Зьмякчэньне *с* перад *к* мяккім: раськівуў 181.

Зьмякчэньне *з* прыјменнага перад мяккімі сугукамі: зь лесам, зь венікам, зь мякінај, зь кім (=сь кім) 183, зь Петраком 203, зь дзеткамі 179.

*г=h* навет па *з* у васнове слова: розhа 182, ё h такжа ў hузік 182.

*мяккі* (два *к*) 183 і 188.

*ф* перајшло ў *п, х, хв*: Піліп, Апанас, Панас, Пёкла 185; Хама, Хомка, хунт 185, Ахрэм, Ахрамёнак, Ахрэміха, Цімоха, Лістахор (з Хрістафор), Сьцяпоха (рас. Стефанида), Нухрэј, Храсіньня, Хёдар, Хадос, Хадоска, Сахон, Хіліп („часьцеј Піліп"), Хаўронак (прозьвішча „ад Хоўра") 203; Хвёдар 185, Хвядоту 201, Пархвен, Цімахвеј (побач з Цімоха), Мархвёнак (прозьвішча „ад Марфа").

зялеза, зялезны (*з*, а ня *ж*) 185.

зьністожыць (*с*, а ня *ш*) 185.

Націск: думá 187, дармà ib., сакол, сьмéшны, смéшна 189, шэсьдзесят ib., абразы, абразоў 188 (націск паказаны курсыўнај літарај).

Суфікс *-іца*: суніца, брушніца, пувіліца 190.

Хоць сп. Кузьмін кажа, што ў гутарцы разгляданае мясцовасьці ё ў мнагаразных дзеясловах толькі суфіксы *-ыва-*, *-іва-*, але прыводзе *прыкідавацца* 202—із суфіксам *-ова-* (*-ава-*). З гэтага відаць, што ранеј і ў гэтај гутарцы былі дзеяслоўныя суфіксы *-ова-* (*-ава-*), *-ева-*, але пасьлеј пад уплывам расејскім шчэзьлі, астаўшыся адно ў некаторых словах.

Прыслоўјі: дамоў, далоў, дамоўкі 190, неўзабаве 191.

Родн. скл. мн. л.: рагоў 192.

Давал скл. мн. л.: гасьцём, людзём, сянём 192.

Месны скл. мн. л.: у лапцёх, у гасьцёх, у людзёх, у сянёх 192.

Цесьць, цьсьця ј цьця, цьсьцёў 189.

Зборныя скланяюцца ў вадз. л. паводле ніякага роду: дурное кольле 191.

Кажны 193. Наз. скл. мн. л. *у.і* 194.

Адзінанцаць 188, двананцаць 194.

**гадаванка**,-і 190 — wychowanka, воспитаница.

**дабранач** 197. **далоў**, прысл. Тады пшаніцу далоў ды јзноў жыта туды 200.

**дзяцініха**-, і 198 — „курыца выведшая и водящая цыплят". Відавочна тут ня толькі будзе курыца, але кожная птушка, маючая дзеці — птушаняты.

**дрыгалкі**—„рулевые весла, каторыми даютъ направленіе гонку" 199. **журавіны**—„клюква" 199. **наўчоны,-ага** 188.

**прыцяміць,-млю** — zauważyć, spostrzedz, примѣтить. Ці ты гэтага ня відзіў ня прыцяміў? 196.

**пуздрэлык,-лка** — бутэлечка 198, відавочна маленкая; прыр. чэс. pouzdro.

**С. Я.**

# Зьмест №№ 1—6 „Роднае Мовы“ за 1930-31 г.

## Артыкулы:



## Крытыкі ј рэфэраты:




Выдае Беларускі Гаспадарскі Зьвяз. / Рэдактар Д-р. Я Станкевіч

ДРУКАРНЯ Я. ЛЕВІНА ВІЛЬНЯ, НЯМЕЦКАЯ 22.

